# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

22 студзеня 2016 года №4 **(1082)**





**Плануюць скараціць "дэкрэтны" адпачынак. Шукаем плюсы і мінусы**

старонка 5

**Жыхары Маладзечна і Лебедзева адзначылі 80-годдзе Генадзя Каханоўскага**

старонка 6

**"Мала працы, моладзь з'язджае"**

У двух падобных гарадах у Польшчы і Беларусі аднолькавыя і праблемы

старонка 21

**ГАРМАЗА: "Я смяюся, калі чую, што Маладзечна будзе гуляць у першай лізе**

старонка 22



# Аўтобусу ЛАЗ радаваліся таму, што ён увогуле прыходзіў

**ЛАЗы з маладзечанскага аўтапарка спісалі ў 2007 годзе. Дзе можна пабачыць два апошнія аўтобусы? У маладзечанца ўзнікла ідэя стварыць для іх музей транспарту.**



Вацлаў Саўчыц не спяшаецца спісваць ЛАЗ. А раптам якраз гэты аўтобус будзе першым экспанатам у музеі транспарту.

старонка 20

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.



НАМ ПІШУЦЬ



Фота historyfilm.org.

Прафесар Адам Мальдзіс.

## Паштоўка для "РГ" ад Адама Мальдзіса

У навагоднія святы нам было прыемна атрымоўваць паштоўкі ад калег, чытачоў і партнёраў. Шчыра дзякуем за гэты прыемны знак увагі.

Сярод іх для нас асабліва каштоўная паштоўка, падпісаная ганаровым старшынёй Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў прафесарам **Адамам Мальдзісам**. Вось яе тэкст:

"Шаноўныя супрацоўнікі "Рэгіянальнай газеты"! Няхай спорыцца Вашая творчая і дружная праца над "Рэгіянальнай газетай", адной з самых цікавых для мяне, як ураджэнца і жыхара Маладзечаншчыны, прыватных газет у Беларусі! Поспехаў і здароўя вам жадаю на ўвесь 2016 год. Адам Мальдзіс".

Дзякуем усім, хто павіншаваў нас, і зычым захаваць ветлівы і прыязны настрой цягам усяго года!

Калектыў "Рэгіянальнай газеты".

КАДРЫ

## Прызначылі новага начальніка аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 12 студзеня начальнікам аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама прызначана **Алеся Лукоўская.**

Яна вучылася ў школе №11 Маладзечна. Скончыла ў 2004 годзе Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт (факультэт французскай мовы).

Працавала настаўніцай французскай мовы ў школе №11. Пасля заняла пасаду першага сакратара Маладзечанскага райкама ГА БРСМ.

У 2013 годзе стала намеснікам начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама.

Былы начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Аляксандр Рамановіч** 27 лістапада пайшоў у адстаўку ў адпаведнасці з законам Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь".

Аддзел інфармацыі.

ДАПАМОГА

# Валянцінка дапаможа атрымаць шанец паправіцца

СМАРГОНЬ

**Каб дапамагчы сабраць грошы на лячэнне хворай дзяўчынкі – Ганначкі Клявец – ініцыятыўныя людзі стварылі суполку ў сацсетках па продажы валянцінак.**



Ахвотныя могуць прапанаваць сваю валянцінку, якая выстаўляецца на продаж. Яна можа быць з любога матэрыялу: паперы, мыла, тканіны, цеста і іншых. Гэта выдатны падарунак да Дня закаханых, а бацькам дзяўчынкі надзея на тое, што яна будзе паўнацэнным дзіцем. Атрыманыя сродкі пойдуць на лячэнне.

Валянцінкі каштуюць ад 20 да 250 тысяч рублёў. Патраціўшы невялікія грошы, вы даяце надзею сям'і Кляўцоў, што яны пачуюць смех, крокі свайго дзіцяці.

Ад 1 да 19 студзеня ад продажу валянцінак атрыманыя тры мільёны 75 тысяч рублёў.

Акцыя доўжыцца да Дня закаханых – 14 лютага.

Сваю дапамогу па зборы сродкаў на лячэнне Ганначкі, дабрачынную латарэю, прапанавала майстрыха **Алена Кірушэнкава**. Прыз – бясплатны пашыў імянной расцяжкі з шасці літар. Каб удзельнічаць у латарэі, трэба перавесці дзесяць тысяч на любы з рахункаў Ганны Клявец, выбраць любы нумар білеціка (ад 1 да 50), у каментарах пад запісам прымацаваць фота квітка з аплатай.

Іншыя спосабы, якімі вы можаце пералічыць грошы:

1. **Праз банк.**

ААТ "ААБ Беларусбанк" філіял №423 ААТ"ААБ Беларусбанк" – г. Смаргонь, вул. Савецкая, 3-б. УНП 500228845; МФО 152101504:

**– беларускія рублі** – транзітны рахунак №3819382112456 на дабрачынны рахунак №000000031.

**– долары ЗША** – транзітны рахунак №3819382112498 на дабрачынны рахунак №8400000000048.

**– еўра** – транзітны рахунак №3819382112498 на дабрачынны рахунак №9780000000005.

Прызначэнне плацяжу: залічэнне на дабрачынны рахунак на імя Клявец Тэрэзы Генадзеўны на лячэнне Клявец Ганны Віталеўны.

2. **Папоўніць баланс тэлефона** МТС (для жыхароў Беларусі) +375-33-37-39-135 (нумар МТС, зарэгістраваны на імя Тэрэзы Клявец).

3. **Пералічыць на картку** Беларусбанка №9112 0001 5331 8080 тэрмін дзеяння да 4.2020.

4. **Паштовым пераводам.**

Адрас: 231041, Рэспубліка Беларусь, Гродзенская вобл., г. Смаргонь, вул. Трактарная, д. 34, кв. 36. Клявец Тэрэза Генадзеўна.

### Хвароба дала пра сябе знаць праз два тыдні пасля нараджэння

Двухгадовая Ганначка Клявец нарадзілася ў тэрмін – 1 снежня 2013 года. Роды прайшлі добра, дзяўчынка сама закрычала, узяла грудзі.

Аднак пры родах не надалі належнай увагі сапраўднаму вузлу пупавіны. Выпісалі маму (Тэрэзу Клявец) з дачушкай на пятыя суткі, як і ўсіх здаровых дзяцей. І усё б было добра, каб праз два тыдні ў дзяўчынкі не з'явіліся падрыгванні і скручванні.

Маладая мама звярнулася ў Мінск у прыватны цэнтр, даслала відэа, на якім бачны стан дачкі. У цэнтры зрабілі ультрагукавую дыягностыку галавы. Неўролаг сказала, што Ганначка – гіперактыўнае дзіця, з узростам гэта пройдзе, не трэба перажываць.

Праз два дні ўсё на самой справе скончылася. Але праз месяц Тэрэза Клявец заўважыла, што дзіця не развіваецца нармальна. У жанчыны ёсць сын, таму яна можа параўноўваць.

### Дактары памыліліся ў дыягназе

У Смаргонскім раёне не было неўролага, таму жанчына папрасіла накіраванне ў мінскі цэнтр, дзе маці і дзіця адразу шпіталізавалі са словамі "вельмі цяжкае дзіця". Там дзіця захварэла на бранхіт, таму лячэнне адклалі на месяц. У канцы сакавіка спецыялісты зноў агледзелі Ганначку і паставілі дыягназ – затрымка псіхаматорнага развіцця з сударгавым сіндромам ў форме прыступаў.

Аказваецца гэта быў не проста паторгванні гіперактыўнага дзіцяці, а курчы, прычым у самай складанай форме, якія і пакінулі вялікі адбітак на развіцці Анюты. На сённяшні дзень курчаў няма, але хвароба не адступае.

### У дзесяць месяцаў дзяўчынцы выдалі пасведчанне інваліда

Аднак сям'я не губляе надзею на тое, што іх дачка будзе паўнацэнным дзіцем, спрабуе магчымыя спосабы лячэння. Ганначка праходзіць актыўнае лячэнне: масаж, лячэбная фізкультура, лекі.

Аднак нягледзячы на ўсе высілкі, Ганна не развіваецца як звычайнае дзіця: не сядзіць, не поўзае, не ходзіць, няўпэўнена трымае галоўку, не гуляе з цацкамі.

Дзяўчынка добра рэагуе на рэабілітацыю, кожны курс – гэта магчымасць зрабіць крок у развіцці.

Цяпер сям'я збірае грошы на паездку ў Чэхію. Там працуюць спецыялісты, якія могуць дапамагчы ў лячэнні хваробы.

Сродкі на рэабілітацыю Ганны Клявец збіраюць да 10 сакавіка 2016 года.

ЗДАРЭННІ

## Мужчыну знайшлі ў трох метрах ад дома – на ім дагарала адзенне

ВІЛЕЙКА

Позна ўвечары 18 студзеня ў Вілейскую цэнтральную раённую бальніцу даставілі 58-гадовага жыхар вёскі Клоўсі Крывасельскага сельсавета. У мужчыны – апёкі першай-чацвертай ступеняў (65 працэнтаў цела). Абгарэлі твар, шыя, грудная клетка, рукі і ногі.

Са слоў суседзяў, знайшлі мужчыну у трох метрах ад дома. Ён ляжаў на спіне, і на ім дагарала адзенне. Сусед абтушыў яго і выклікаў "хуткую дапамогу".

Як мужчына атрымаў апёкі, высвятляецца. У жылым доме ніякіх пашкоджанняў ад агню няма, расказаў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Аляксандр Казакевіч**.

Аддзел інфармацыі.

ПАМЯЦЬ

## На дамы ветэранаў прымацоўваюць беларускамоўныя шыльды

ВІЛЕЙКА

Гэтую акцыю распачалі з усталявання шыльды на дом жыхара Хаценчыцаў. І якраз у дзень 90-гадовага юбілею **Аляксандра Іванавіча Кажуры**, 20 студзеня.

Акцыю "Тут жыве ветэран" ініцыяваў Беларускі фонд міру. Але спачатку не было ідэі рабіць шыльды менавіта па-беларуску. Актывіст **Алесь Раткевіч** з Чысці падчас сустрэчы са старшынёй праўлення Беларускага фонду міру **Максімам Місько** патлумачыў, што варта зрабіць надпіс на шыльдах на беларускай мове. Да яго парады прыслухаліся.

Алесь Раткевіч адзначыў, што мерапрыемства прайшло вельмі цёпла і нават па-сяброўску шчыра.

Акцыя "Тут жыве ветэран" накіраваная на прыцягненне ўвагі да тых, хто змагаўся з фашызмам. Аляксандр Кажура стаў першым удзельнікам акцыі.

Шыльду ўсталёўвалі навучэнцы Мінскага суворўскага ваеннага вучылішча.

У межах акцыі фонду запланавана абысці ўсіх ветэранаў, якіх засталося каля 12 тысяч. Арганізатары плануюць закончыць акцыю да 9 мая.




Фота забяспечана Аляксандрам РАТКЕВІЧАМ.

Такія шыльды будуць сёлета прымацоўваць у межах акцыі.

Зоя ХРУЦКАЯ.

ВЫЯЗНЫ "КРУГЛЫ СТОЛ" "РГ"

# Сустрэча з кіяскёрамі

МАЛАДЗЕЧНА

**Сход кіяскёраў маладзечанскага аддзялення "Мінаблсаюздруку" 18 студзеня прайшоў з гасцямі – работнікамі "Рэгіянальнай газеты".**


Начальніца маладзечанскага аддзялення "Мінаблсаюздрук" Ядвіга Чаеўская.

Начальніца аддзялення **Ядвіга Чаеўская** расказала пра адметнасць выдання і пра тое, што сустрэчу наладзілі не толькі для таго, каб пазнаёміцца, але і каб адзначыць лепшых кіяскёраў.

Галоўны рэдактар выдання **Аляксандр Манцэвіч** распавёў пра адметнасць "Рэгіянальнай газеты". Пра газету расказалі таксама загадчыца аддзела інфармацыі **Зоя Хруцкая**, спецыяліст па распаўсюджванні **Наталля Харытонава**, журналістка **Наталля Тур**.

Лепшым шасці кіяскёрам рэдакцыя ўручыла калядныя падарункі.

Гаспадароў чакала забава – чай з жартаўлівымі пажаданнямі ад рэдакцыі. Каму лёс наканаваў зладзіць вечар спеваў, а каму чакаць рамонт ці новае жыллё.

Пасля ўрачыстасці работнікі рэдакцыі слухалі парады работнікаў кіёскаў, як палепшыць продаж "РГ".

Ядвіга Чаеўская, расказваючы пра свой калектыў, пачала са слоў "Я сваіх дзяўчат вельмі люблю!". Сёння ў кіёсках аддзялення працуюць толькі жанчыны. Працаваць у кіёску не так проста, як можа падацца на першы погляд. Зімой холадна, летам спякотна, а кліенты вельмі розныя. Некаторыя кіяскёры сталі сапраўднымі псіхолагамі, да якіх прыходзяць як на кансультацыю.


Маладзечанскія кіяскёры.


Рэдакцыя ўзнагароджвала лепшых у продажы "Рэгіянальнай газеты".

Начальніца адзначыла, што знайсці добрых работнікаў – задача няпростая. Але цяпер склаўся той калектыў, дзе праца стала прыносіць не толькі больш плёну, але і задавальненне для работнікаў.

Такі вынік падкрэсліваюць узнагароды. Па выніках працы ў 2015 годзе ўзнагароджаныя Ганаровымі граматамі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь кіяскёры з Вілейкі **Марына Борыс** і з Валожына **Тацццяна Арцюкевіч**. Ганаровай граматай РУП "Мінаблсаюздрук" узнагароджана кіроўца з Вілейкі **Алег Лях**, арганізатар рознічнага гандлю **Вольга Арлёнак** і кіяскёр з Маладзечна **Ірына Баўдзей**.

Аддзел інфармацыі.
Фота Наталлі ТУР.

## Лепшыя кіяскёры па продажы "Рэгіянальнай газеты"

Лепшыя кіяскёры па продажы "Рэгіянальнай газеты" за лістапад-снежань 2015 года вызначаліся па колькасці прададзеных асобнікаў нашай газеты. Гэта аказаліся маладзечанкі **Ала Борыс** і **Ганна Альшэўская**, **Алена Казакевіч** і **Аліна Качан** з Вілейкі, а таксама **Наталля Аскірка** і **Тацццяна Паўлава** з Маладзечна. У падпарадкаванні маладзечанскага аддзялення "Мінаблсаюздруку" знаходзяцца кіёскі на Маладзечаншчыне, Вілейшчыне, Мядзельшчыне і Валожыншчыне.

ЗДАРОЎЕ

# Засцеражыце сябе ад грыпу

**Сёлета ў канцы студзеня – пачатку лютага чакаюць эпідэмію сярэдняй інтэнсіўнасці.**

Заразіцца грыпам вельмі лёгка. Звычайна вірус трапляе праз слізістыя рота, носа ці вачэй праз часцінкі сліны, слізі, макроты пры кашлі ці чханні. Вірус перадаецца праз посуд, ручнікі і іншыя рэчы.

Але найбольшая небяспека – хворыя на лёгкую форму грыпу, якія вядуць актыўны лад жыцця і паспяваюць заразіць вельмі многіх.

Сімптомы грыпу – дрыжыкі, павышаная тэмпература, слабасць, боль у мышцах і суставах, кашаль, насмарк, галаўны боль, боязь святлу.

Грып пачынаецца востра. У першыя суткі тэмпература дасягае 38-40 градусаў. Хвароба проста валіць з ног. Пры першых сімптомах выклікайце доктара. Толькі ён можа вырашыць, на што вы хвараеце і як вам лячыцца.

Грып можа выклікаць сур'ёзныя ўскладненні – запаленне лёгкіх, бранхіт, сінусіт, атыт.

**Каб не захварэць:**

– Загартоўвайце свой арганізм, правільна харчуйцеся, трымайцеся рэжыму працы і адпачынку.

– Насіце адзенне па надвор'і, але не хутайцеся. Насіце шапку і цёплы абутак.

– Часцей праветрывайце пакоі і праводзьце вільготную ўборку.

– У час эпідэміі пазбягайце месцаў, дзе шмат людзей. Калі гэта немагчыма, перад выхадам змажце насавыя хады аксалінавай маззю.

– Ешце больш садавіны і гароднiны, багатых вітамінамі, можаце прымяняць сродкі народнай медыцыны.

У Беларусі многія зрабілі вакцынацыю, у групах рызыкі вакцынаваных 80%. Такі працэнт рэкамендуе Сусветная арганізацыя аховы здароўя.

Вольга СЯЛІЦКАЯ,
доктар-эпідэміёлаг Маладзечанскага занальнага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 14.01 руб. | 21.01 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 19 234,00 | **20 461,00** |
| Еўра | 20 951,00 | **22 391,00** |
| Злоты | 4 782,91 | **4 994,62** |
| Расійскі рубель | 251,04 | **256,97** |
| Грыўня | 823,73 | **826,40** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 20.01** | | |
| Еўра | 20850/21100 | **22150/22550** |
| Долар ЗША | 19300/19580 | **20400/20700** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 13.01 | 20.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 144 500 | **144 500** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 800 | **28 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 80 000 | **75 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39 800 | **40 600** |
| Селядзец, 1 кг | 52 000 | **52 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | **135 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | **14 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 000 | **17 000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14 000 | **14 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 500 | **23 500** |
| Маянэз, 200 г | 5 700 | **5 700** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 900 | **7 500** |
| Часнок, 1 кг | 57 500 | **54 500** |
| Капуста, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Морква, 1 кг | 6 500 | **7 500** |
| Баклажаны, 1 кг | 59 000 | **30 000** |
| Лімоны, 1 кг | 24 900 | **29 900** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 900 | **27 900** |
| Мандарыны, 1 кг | 26 900 | **26 900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 24 900 | **30 000** |
| Ківі, 1 кг | 29 500 | **33 500** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **60 000** |
| Памідоры, 1 кг | 32000 | **34 900** |
| Агуркі, 1 кг | 34 900 | **34 900** |
| Перац, 1 кг | 34 900 | **34 900** |
| Вінаград, 1 кг | 32 900 | **32 900** |
| Бананы, 1 кг | - | **23 500** |
| Хурма, 1 кг | 28 000 | **29 900** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 43 500 | **25 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 13 000 | **13 900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24 500 | **29 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 5 000 | **5 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Мужчына спрабаваў скрасці з крамы гарэлку

ВІЛЕЙКА

Па факце замаху на рабаванне 13 студзеня ўзбудзілі крымінальную справу.

Здарэнне адбылося ўвечары 4 студзеня. Два мужчыны нанапдітку зайшлі ў краму ў Вілейцы. Там іх шляхі разышліся, сталі хадзіць па адным. Адзін з іх, 38-гадовы жыхар вёскі Маргі, узяў дзве бутэлькі гарэлкі і вынес іх з крамы.

Але на вуліцы яго дагналі работнікі крамы. У мітусні гарэлку мужчына пакінуў, а самому ўдалося ўцячы. Дапамагаў яму збегчы знаёмы, з якім прыйшоў у краму, – таго і ўдалося затрымаць.

Потым міліцыянеры затрымалі жыхара вёскі Маргі, раcказаў начальнік Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**.

## Мужчыну стала дрэнна на возеры – яго выносілі выратавальнікі

МЯДЗЕЛ

Раніцай 15 студзеня дзяжурная медсястра Мядзельскай ЦРБ паведаміла выратавальнікам пра тое, што на лёдзе возера Баторына знаходзіцца чалавек. Мужчыну трэба было даставіць на бераг.

Як аказалася, 30-гадовы жыхар Мядзельшчыны ішоў напрамкі па лёдзе возера ў Мядзел. Непадалёк ад вёскі Качаргі яму стала дрэнна. Мужчына знаходзіўся у 400 метраў ад берага.

Супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях на выратавальнай дошцы даставілі яго на бераг і перадалі брыгадзе "хуткай дапамогі".

Мужчыну шпіталізавалі ў рэанімацыйнае аддзяленне з папярэднім дыягназам "пераахаладжэнне цяжкай ступені, адмаражэнне ніжніх канечнасцяў", расказала інспектар групы прапаганды і навучання райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Ірына Карапецян**.

## На Вілейскім вадасховішчы налавілі рыбы на 23 мільёны

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

Супрацоўнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры незаконнай здабычы рыбы з выкарыстаннем сеткі затрымалі жыхара Вілейскага раёна. Адбылося гэта ў пачатку студзеня на Вілейскім вадасховішчы паблізу вёскі Несцеркі.

Улоў няўдалага парушальніка складаўся з 26 срэбных карасёў, 10 судакоў, пяці ляшчоў і чатырох шчупакоў. Агульная вага рыбы – 33 кілаграмы, расказаў старшы дзяржінспектар міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Уладзімір Хіла**.

Прычыненая навакольнаму асяроддзю шкода перавысіла 23 мільёны рублёў.

Паколькі навакольнаму асяроддзю нанеслі шкоду ў буйным памеры, Следчы камітэт у дачыненні да парушальніка распачаў крымінальную справу за браканьерства.

Акрамя выплаты шкоды, ён паўстане перад судом. За гэтае парушэнне прадугледжаная адказнасць у выглядзе штрафу або пазбаўлення волі на да трох год.

## Зніклага пяцігадовага хлопчыка знайшлі жывым у каналізацыйным калодзежы

АШМЯНЫ

Аб гэтым паведамілі ў прэс-службе УУС Гродзенскага аблвыканкама, піша "Наша ніва" са спасылкай на БелТА.

На пульт дзяжурнага міліцыі тэлефанаванне пра тое, што прапала пяцігадовае дзіця, паступіла ў другой палове дня ў нядзелю. Праз некалькі гадзін хлопчыка выявілі ў каналізацыйным калодзежы, куды ён зваліўся па няўважлівасці. Пра тое, дзе хлопчык можа знаходзіцца, распавялі яго сябры. Яны патлумачылі міліцыянерам, што непадалёк ад дома ёсць яр, дзе размешчаны каналізацыйныя калектары.

Снег змякчыў падзенне, дзіця не пацярпела.

Аддзел інфармацыі.

## У Астраўцы адзін брэстаўчанін забіў другога

АСТРАВЕЦ

У Астраўцы канфлікт завязаўся паміж двума брэстаўчанамі 27 і 45-ці гадоў. Абодва яны працавалі падсобнымі рабочымі, а кватэру наймалі.

Уначы 18 студзеня пілі спіртное. Пасварыліся, і ў маладзейшага амаль на 20 год мужчыны здалі нервы. Ён нанёс не менш за два ўдары кулакамі ў галаву калегу, ад якіх той памёр.

Віну падазраваны прызнае цалкам і ўжо напісаў яўку з павіннай.

Яраслаў ВАСІЛЕЎСКІ,
uvd.grodno.by.

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Смяротнае ДТЗ ля Гудагая:

## кіроўца толькі на секунду адцягнуў увагу ад дарогі

АСТРАВЕЦ

**14 студзеня ў дзве гадзіны дня на аўтадарозе Р-48, паблізу Гудагая, адбылося лабавое сутыкненне.**

Кіроўца аўтамабіля "Форд" на закругленні дарогі па незразумелай пакуль прычыне апынуўся на сустрэчнай паласе руху УАЗа. У выніку ДТЗ 31-гадовы мужчына, кіроўца іншамаркі, ад атрыманых траўмаў памёр на месцы здарэння. На дадзены момант ёсць здагадка, што загінулы адцягнуў увагу на некалькі секунд ад кіравання і аўтамабіль, на задніх колах якога ўстаноўленыя летнія шыны, вярнуцца ў сваю паласу ўжо не змог.

Яраслаў ВАСІЛЕЎСКІ,
gaigrodno.by



Фота з сайта gaigrodno.by.

Аварыя ля Гудагая. Кіроўца не справіўся з кіраваннем і выехаў на сустрэчную паласу.

ПРЫСУД

## Жыхар Смаргоні збіў незнаёмага мужчыну на ганку

СМАРГОНЬ

**Здарэнне адбылося летась у жніўні ў Маладзечне.**

23-гадовы жыхар Смаргоні, які быў п'яны, увечары на ганку інтэрната па вуліцы Касманаўтаў, 23 беспадстаўна з хуліганскіх меркаванняў нанёс мужчыну, які жыў у гэтым інтэрнаце, два ўдары кулаком у правае плячо.

Пасля таго, як пацярпелы накіраваўся ў памяшканне інтэрната, малады чалавек стаў яго пераследаваць і, ужо знаходзячыся ўнутры інтэрната, каб працягнуць канфлікт, стаў стукаць па дзвярах пакояў жыхароў.

Пасля чаго разбіў шкло на дзвярах калідораў, вырваў дзвярны прабой запаснога ўвахода.

Тым жа вечарам малады чалавек быў затрыманы.

У судовым пасяджэнні 11 лістапада мужчына вінаватым сябе прызнаў цалкам, патлумачыўшы, што 31 жніўня сустрэўся са сваім калегам, з якім ужыў значную колькасць спіртнога.

Пасля сустрэчы накіраваўся ў бок чыгуначнага вакзала, але на вуліцы Касманаўтаў заўважыў на ганку інтэрната мужчыну, жанчыну і маленькую дзяўчынку, з якімі беспадстаўна задумаў канфлікт.

Суд Маладзечанскага раёна прызнаў жыхара Смаргоні вінаватым у наўмысных дзеяннях, якія парушаюць грамадскі парадак і выказваюць відавочную непавагу да грамадства. Суд прызначыў яму пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры 100 базавых велічынь, што складае 18 мільёнаў рублёў.

Прысуд уступіў у законную сілу.

Карына САРАЧЫНСКАЯ,
памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.

МІЛІЦЫЯ ІНФАРМУЕ

## У пенсіянеркі скралі грошы і залатыя вырабы на вялікую суму

### Як пазбегнуць крадзяжоў

ВІЛЕЙКА

**У 81-гадовай жыхаркі вёскі Ракшыцы Ільянскага сельсавета з дома зніклі 2 600 долараў ЗША.**

А таксама 10 мільёнаў рублёў і залатыя вырабы – на агульную суму 63 мільёны рублёў.

Крадзеж адбыўся ў перыяд ад пачатку снежня да 5 студзеня. У гэты дзень жанчына заўважыла прапажу, калі вырашыла праверыць зберажэнні. Ляжалі яны ў шафе.

Узбудзілі крымінальную справу па факце крадзяжу ў буйным памеры.

– Пранікнення ў дом не было, – кажа начальнік Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**. – Адна з версій, што разглядаецца, такая. Да крадзяжу могуць быць датычныя дзве невядомыя жанчыны. Напярэдадні, 4 студзеня, яны завіталі да пенсіянеркі. Сказалі, што прадстаўляюць адну з дабрачынных арганізацый. Толькі зайшлі ў пакой, пагутарылі і пайшлі.

За апошнія гады падобныя крадзяжы не рэдкасць.

– У выпадку крадзяжоў, каб увайсці ў дом, нязваныя госці ўказвалі розныя прычыны. Каму трэба быў нож, каб парэзаць сала, хто прадаваў хусткі. Хтосьці казаў, што "вось вам дапамога ад дзяржавы". І пакуль людзі распісваліся за нейкія капейкі – знікалі іх грошы, – прыгадвае Яўген Мягкоў.

Знайсці такіх зламыснікаў цяжка. Таму што, як правіла, усё адбываецца хутка, пацярпелыя прыкмет гасцей не запамінаюць.

Вяскоўцам Яўген Мягкоў параіў быць пільнымі з нязванымі гасцямі:

– Калі да вас прыходзяць невядомыя людзі, прапануюць штосьці набыць ці аказаць якую дапамогу ці паслугу, не пакідайце іх адных без нагляду. Зламыснікам хопіць некалькі хвілін, каб знайсці і скрасці вашы грошы. Па магчымасці запомніце нумар машыны, на якой прыехалі нязваныя госці, і прыкметы гэтых людзей. Калі што выклікае падазрэнне, адразу ж паведамляйце праваахоўнікам.

Алесь ВЫСОЦКІ.

НАШЫ ДЗЕЦІ

# Плануюць скарaціць "дэкрэтны" адпачынак. Шукаем плюсы і мінусы

**На мінулым тыдні з'явіўся артыкул у эканамічным выданні памочніка Прэзідэнта па эканамічных пытаннях Кірыла Рудога.**



Фота http://bolnel27.ru

Лепш пастýпова адаптаваць дзіця да садка. Пачынаць лепш з гурткоў, якія мама і дзіця будуць наведваць разам.

У ім ён разважае наконт таго, што варта скарaціць адпачынак па доглядзе за дзецьмі да двух гадоў.

У Беларусі такі адпачынак адзін з самых працяглых – тры гады, у Расіі – паўтара, у Казахстане – адзін.

### Адпачынак паўнацэнна выконвае свае функцыі два гады

Аўтар пералічвае мінусы працяглага адпачынку па доглядзе за дзецьмі. Сярод іх зніжэнне прафесіяналізму жанчын, што прыводзіць да больш нізкіх заробкаў; датэрміновы выхад на працу; рэкамендацыі медыка наконт таго, што аптымальны тэрмін для груднога кармлення – два гады.

На аснове гэтага ён робіць выснову, што трохгадовы "дэкрэтны" адпачынак паўнацэнна выконвае сваю функцыю толькі ў першыя два гады. Дадатковы год з'яўляецца, хутчэй, вынікам недахопу дашкольнай інфраструктуры, звычкі і іншых прычын, не звязаных наўпрост з доглядам за дзіцем.

### Аргументы мам, чаму "дэкрэтны" павінны быць тры гады

Гэта навіна адразу ўзрушыла мам. У каментарах да артыкулаў яны прыводзілі аргументы, чаму не трэба скарачаць працягласць адпачынку па доглядзе. Сярод аргументаў:

1. Многія дзеці ў два гады толькі прывучаюцца да гаршка, не ўмеюць самастойна апранацца, есці, пачынаюць гаварыць першыя словы. Выхавальніцы не змогуць кожнаму дзіцяці даць пэўны догляд.
2. Адаптуючыся ў садку, дзеці часта хварэюць. Аднак не кожны працадаўца будзе задаволены частымі бальнічнымі жанчыны.
3. Недастатковая колькасць дзіцячых садкоў.

**Цяпер выплата па доглядзе за адным дзіцем складае 2 мільёны 433 тысячы 700 рублёў. У год адна мама атрымлівае 29 мільёнаў 204 тысячы 400 рублёў. У сярэднім у апошнія гады ў краіне было каля 110 тысяч родаў у год. Атрымлівацца, каб выплаціць гэтай колькасці мам за месяц, дзяржава аддае 267 мільярдаў 707 мільёнаў рублёў.**

У сацсетках мы правялі апытанне сярод чытачоў і падпісчыкаў, ці трэба скарачаць працягласць адпачынку па доглядзе за дзецьмі. Усяго ў апытанцы прынялі ўдзел 434 чалавекі.

389 чалавек прагаласавалі за тое, каб не скарачалі адпачынак, каб дзіця найдаўжэй было з маці. 26 рэспандэнтаў выказаліся за тое, што два гады – гэта аптымальны тэрмін для адпачынку. 12 чалавек выбралі пункт – іншы варыянт адказу. Сем чалавек прагаласавалі за тое, што тры гады для такога адпачынку замнога.

### Жанчына нармалізуецца пасля родаў праз паўгода

Мы спыталі ў спецыялістаў, які ўзрост аптымальны для дзіцяці, каб аддаць яго ў дзіцячы садок.

Загадчыца жаночай кансультацыі Вілейскай цэнтральнай раённай бальніцы **Людміла Бычак** адзначае, што ў сярэднім фізічны стан жанчыны нармалізуецца пасля родаў праз паўгода, калі няма ўскладненняў.

– Карміць дзіця грудзьмі пажадана год, не даўжэй, – расказвае спецыяліст. – Праз год малако маці не мае ўсяго багацця карысных элементаў, як гаварылі раней, становіцца пустым. Лепш у гэты час прывучаць дзіця да звыклай ежы. Тым больш, што ў дзіцяці фарміруецца прыкус, а кармленне грудзьмі перашкаджае гэтаму.

З гэтага можам зрабіць выснову, што жанчына можа прыступіць да працы праз год пасля нараджэння дзіцяці.

### Першыя спробы разлукі з мамай можна пачынаць у восем-дзевяць месяцаў

Псіхолаг **Таццяна Жданава** лічыць, што аптымальны ўзрост для таго, каб аддаць дзіця ў садок – тры-тры з палавай гады.

Трэба памятаць, што дзіця яшчэ трэба падрыхтаваць да разлукі. Першыя спробы можна пачынаць у восем-дзевяць месяцаў. У гэтым узросце дзеці фізічна і псіхічна гатовыя адпускаць маму, але часта развіваюцца так, як быццам назаўсёды. У гэты перыяд актывізуецца страх згубіць блізкага чалавека.

Паралельна з гэтым у дзіцяці фарміруецца разуменне, што мама вернецца.

Дзевяць-дзесяць месяцаў – гэта першы тэрмін, калі мама можа разлучацца з дзіцем, каб выйсці на працу. Але лепш на няпоўны рабочы дзень. Пры гэтым мама павінна кіравацца здароўем дзіцяці. Калі не рэжуцца зубкі, няма іншых захворванняў, няма зменаў у жыцці дзіцяці, напрыклад, пераезд, адаптацыя ў яслях, і іншых істотных змяненняў, можна выходзіць на працу.

### Да двух з паловай гадоў для дзіцяці увесь свет – мама

Гадавалае дзіця можа прывыкнуць да таго, што мамы няма побач. Аднак у гэтай сітуацыі прывыкнуць – значыць, змірыцца і моўчкі пакутаваць, рэагуючы на стрэс частымі прастудамі і іншымі захворваннямі, дрэнным настроем, зніжэннем цікавасці да навакольнага свету. Гэта адмоўна ўплывае на эмацыйнае і інтэлектуальнае развіццё дзіцяці.

Да двух з паловай гадоў у дзіцяці няма імкнення гуляць з іншымі дзецьмі. Яно яшчэ не ўмее і не ведае, як гэта рабіць, у гэтым узросце, як правіла, не ўзнікае такой патрэбы. Увесь свет для яго – гэта мама.

Таму, калі дзіця аддаюць у садок ва ўзросце да двух з паловай гадоў, – гэта будзе заўсёды так альбо інакш супраць прыроды дзіцяці, яго псіхалагічных патрэбаў.

### Гурткі спрыяюць лепшай адаптацыі дзіцяці

Аптымальным варыянтам з'яўляюцца заняткі, гурткі, якія развіваюць. Сюды прыходзіш разам з мамай на гадзіну-дзве, мама заўсёды побач, у любую хвіліну гатовая прыйсці на дапамогу, падтрымаць, паказаць, што і як рабіць. Гэта дапамагае адаптавацца да дзіцячага садка і больш лёгка расставацца з мамай.

Дзіця, якому цяжка прывыкнуць да садка, не заўсёды яўным чынам пакажа гэта. Яно можа паводзіць сябе дастаткова паслухмяна, выказваючы свае перажыванні ўскосным чынам. Самая распаўсюджаная форма – прастуда, зніжэнне апетыту, раздражнёнасць, дрэнны сон, плач па начах. Калі праз тры-чатыры тыдні гэтыя сімптомы не знікаюць, можна гаварыць пра тое, што дзіця дрэнна адаптуецца да дзіцячага садка.

У такім выпадку малога пажадана пазбавіць ад наведвання садка на бліжэйшы год. Калі гэта зусім немагчыма, пастарацца змякчыць траўмуючую сітуацыю, пакідаць дзіця на паўдня, устройваць дадатковы выхадны пасярод тыдня, пашукаць сад з меншай колькасцю дзяцей у групе.

Калі ў вас ёсць магчымасць, лепш аддаваць дзіця ў садок бліжэй да трох гадоў. Гэта будзе менш траўматычна для дзіцяці.

Калі такой магчымасці няма і трэба аддаваць дзіця ў садок раней, неабходна зрабіць усё магчымае, каб максімальна падрыхтаваць яго, мінімалізаваць эмацыйную нагрузку.

**Апытанку на гэту тэму чытайце на старонцы 24.**



**Галіна СІНІЦА**
8793850@gmail.com
Skype: sinica-galina92

МУЗЫКА

## Юныя скрыпачы з Вілейкі сталі лаўрэатамі міжнароднага конкурсу-фестывалю

ВІЛЕЙКА

Чацверты міжнародны конкурс-фестываль "Славянскія сустрэчы" праходзіў у Мінску 9-11 студзеня.

У ім удзельнічалі юныя выканаўцы з Беларусі, Азербайджана, Расіі і Кітая.

Сярод лаўрэатаў конкурсу-фестывалю – юныя скрыпачы, навучэнцы Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў.

У намінацыі "Сольнае інструментальнае выканальніцтва" **Яну Мучынскую** ўзнагародзілі дыпломам лаўрэата трэцяй ступені, а **Аль-Хлейфат Амраан** стаў лаўрэатам другой ступені.

У намінацыі "Інструментальныя ансамблі" ўзорны ансамбль скрыпачоў "Камплімент"стаў лаўрэатам першай ступені. Таксама граматамі адзначылі выкладчыкаў, якія падрыхтавалі пераможцаў – **Таццяну Жук** і **Святлану Ражко**, паведаміла дырэктар школы мастацтваў **Наталля Сліжова**.

– Гэта было сапраўднае свята для дзяцей. Узровень ўдзельнікаў конкурсу быў вельмі высокі. Журы складалася з выдатных дзеячаў культуры Беларусі і дастойна ацаніла кожнага ўдзельніка, – дадала Таццяна Жук. – А ўзорны ансамбль скрыпачоў "Камплімент" прыняў удзел у гала-канцэрце, які праходзіў на сцэне Маладзёжнага тэатра эстрады.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ГУЛЬНІ

## Бібліятэка ладзіць інтэлектуальную гульню

МАЛАДЗЕЧНА

Адмысловая дзеля гульні "Розум-шоу" з Мінска прыедзе ўладальнік Хрустальнай савы **Павел Свярдлоў**. Ён будзе вядучым гульні.

Імпрэза адбудзецца ў нядзелю, 24 студзеня.

Як паведаміла загадчыца аддзела абслугоўвання цэнтральнай раённай бібліятэкі **Таццяна Закрэўская**, пачатак а 15 гадзіне.

Удзел бясплатны. Але ахвотных просяць загадзя зарэгістравацца па тэлефоне **(80176) 76-06-56 ці (8033) 669-12-18.**

Мерапрыемства ладзіць Маладзечанская цэнтральная раённая бібліятэка. Яно пройдзе ў канферэнц-зале бібліятэкі сямейнага чытання "Верасок".

**Аддзел інфармацыі.**



Аляксандр Каханоўскі.



Таццяна Каханоўская.

● ЗЕМЛЯКІ

## Сустрэчу памяці Генадзя Каханоўскага правялі ў Лебедзеве

МАЛАДЗЕЧНА

**У гэты дзень блізкія і знаёмыя краязнаўцы падзяліліся сваімі ўспамінамі пра знакамітага земляка.**

Запрошанымі гасцямі былі дзеці Генадзя Аляксандравіча. Дачка, **Таццяна**, працуе настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў маладзечанскай школе №5. Сын, **Аляксандр**, – загадчык кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу ў БДУ.

Сустрэча адбылася ў Лебедзеўскім Доме культуры пры ўдзеле "Рэгіянальнай газеты".

Першым выступіў былы дырэктар лебедзеўскай школы **Валеры Качаргін**. Большасцю прысутных у зале былі вучні школы, таму Валерыю Паўлавічу было важна адзначыць, што Каханоўскі пераадольваў самыя розныя складанасці, каб атрымаць выдатны вынік працы.

Дзяцінства будучага гісторыка прыйшлося на ваенныя гады. Галоўны абавязак па гаспадарцы для хлопчыка быў догляд за скацінай, ён пасвіў кароў. Давялося перажыць галодныя пасляваенныя гады. А каб скончыць школу, штодня, пры любым надвор'і, хадзіў вучыцца пешшу за чатыры кіламетры.

Адразу пасля школы паступіць у навучальную ўстанову не атрымалася, толькі пасля арміі. Але і добрая вучоба не пазбавіла ад нейкіх наступстваў. Заўсёды трэба ўлічваць час, у які жыў дзеяч. Качаргін падкрэсліў, што час працы Каханоўскага быў такі, што даводзілася быць вельмі абачлівым, каб мець магчымасць працаваць на карысць Беларусі.

Сын Каханоўскага, Аляксандр, падзякаваў, што вечарына памяці ўпершыню адбылася ў Лебедзеве, мястэчку, каля якога нарадзіўся Генадзь Аляксандравіч. Ён падзяліўся меркаваннем, што няправільна лічыць краязнаўства аматарскай справай. Таму што краязнаўствам можа займацца толькі той чалавек, які грунтоўна ведае гісторыю і дзякуючы гэтаму можа даць аб'ектыўную ацэнку фактам.

Сябра дзяціцнства **Іван Свірыда** распавёў, што і ў пасляваенныя гады моладзі хацелася пазабавіцца. Каханоўскі добра гуляў у футбол, і за адну гульню яму ўручылі букет кветак.

Галоўны рэдактар "Рэгіянальнай газеты" **Аляксандр Манцэвіч** прыгадаў свае сустрэчы з краязнаўцам. Сказаў, што Генадзь Аляксандравіч не бачыў "РГ", але спадзяецца, што ён бы палюбіў беларускамоўную газету, якая акцэнтуе ўвагу на тэме гісторыі і краязнаўства.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота Наталлі ТУР.**

**Больш фота на сайце rh.by.**

### Пройдзе вечар-успамін, прысвечаны Генадзю Каханоўскаму

МАЛАДЗЕЧНА

Мерапрыемства "Ішоў ён сейбітам нястомным па зямлі" пройдзе 28 студзеня ў малой зале Палаца культуры а палове шостай вечара.

У вечары-успаміне прымуць удзел людзі, якія ведалі **Генадзя Каханоўскага**. Прагучаць песні і вершы, прысвечаныя яму. Можна будзе паглядзець фотаздымкі Генадзя Каханоўскага.

**Паводле інфармацыйнага аддзела Палаца культуры.**

● ІНТЭЛЕКТУАЛЬНЫЯ ГУЛЬНІ

# Падчас квэста прайшлі месцамі Генадзя Каханоўскага

МАЛАДЗЕЧНА

**16 студзеня адбылася першая дзея квэста "Маладзечанскія Кірыл і Мяфодзій. Частка 1: Жыццё і дзейнасць Генадзя Каханоўскага".**



Фота Ганны ШАКЕЛЬ.

Вячаслаў Кіпрыяновіч выконвае заданне.

Квэст арганізавалі суполка правінцыйных гарадскіх гульняў "Тутэйшыя квэсты" і цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча. Загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі бібліятэкі **Таццяна Закрэўская** прапанавала, "Тутэйшыя" падтрымалі.

Напачатку арганізатары мерапрыемства распрацоўвалі заданні, датычныя да жыцця і дзейнасці Генадзя Каханоўскага, якому 8 студзеня споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння. Але, вывучыўшы тэму больш глыбока, арганізатары "Тутэйшых квэстаў" заўважылі: калі ўзгадваць пра Каханоўскага, то немагчыма не ўспомніць **Міколу Ермаловіча**.

Так узнікла ідэя правесці квэст у дзвюх частках. Першую прысвяціць Генадзю Каханоўскаму, другую – Міколу Ермаловічу.

**Другая частка квэста пройдзе адразу пасля дня нараджэння Міколы Ермаловіча – пасля 29 красавіка.**

Каманды, якія ўдзельнічалі ў квэсце, маглі складацца з адна-го-трох чалавек. Яны павінны былі загадзя зарэгістравацца.

Стартавалі каманды ў бібліятэцы "Верасок". Падчас гульні яны павінны былі рашыць сем заданняў, звязаных з месцамі дзейнасці гісторыка. На заданні давалася паўтары гадзіны.

Рашэнне заданняў квэста дапамагло ўзгадаць, што Генадзь Каханоўскі разам з мастаком **Юрыем Герасіменкам-Жызнеўскім** распрацоўвалі першы герб Маладзечна – трыліснік папараці. Ён дзейнічаў да 2000 года і сімвалізаваў напрамак трох дарог – Вільня, Гродна, Мінск, з'яўляўся маральным ідэалам і ідэйным натхняльнікам "Беларускай хаткі", першага рэгіянальнага цэнтра беларускай культуры, які месціўся па Францішка Скарыны, 19.

І за шматлікія беларускія назвы вуліц мы павінны быць удзячныя і Генадзю Каханоўскаму, які ўваходзіў у склад гарадской тапанімічнай камісіі, якая займалася перайменаваннем вуліц у 1990 годзе. Напрыклад, вуліца Ушацкая раней насіла назву Суворава, а Лібава-Роменская была Рэвалюцыйнай.

Заданні ўдзельнікі праходзілі ў дзень, калі ў краіне быў аб'яўлены афіцыйны аранжавы ўзровень небяспекі. Аднак у гэтым не пабачылі перашкоды. На жаль, школьнікі не змаглі трапіць на гэта мерапрыемства з-за надвор'я.

Пасля квэста **Міхась Казлоўскі** распавёў пра творчыя перамогі і цяжкасці Генадзя Каханоўскага. Расказаў пра адно з правіл жыцця Каханоўскага: "Зрабіў і рухайся далей, зрабіў і рухайся далей".

**Вольга ТРУБАЧ,**
**каардынатар праекта "Тутэйшыя квэсты".**

● МУЗЕІ

## Адкрылася выстава, што нагадае пра лета

ВІЛЕЙКА

**Яна так і называецца – "Фарбы лета". Адкрылася персанальная выстава Наталлі Табушавай у выставачнай зале імя Сілівановіча 15 студзеня.**



Фота забяспечана Надзеяй АЎДЗЕЙ.

Наталля Табушава на адкрыцці выставы ў Вілейцы.

29-гадовая мастачка з Мінска прадставіла на выставе 15 прац. Пераважна гэта нацюрморты і партрэты.

– Выстава недарэмна называецца "Фарбы лета". Тут такія яркія фарбы: жоўтыя, чырвоныя, – кажа навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**. – На карцінах можна пабачыць дзьмухавец, кветкі, што нагадваюць нам пра лета, яблыкі, якія захавалі пах ранняй залатой восені. На адным палатне цвіце каштан.

Цэнтральная карціна выставы – "Аўтапартрэт з Майстрам (Маем Данцыгам)".

Гэта карціну Наталля Табушава намалявала да юбілею народнага мастака Беларусі. Твор стаў лепшым у своеасаблівым аглядзе, і яго доўгі час паказвалі на тэлебачанні як застаўку да праграм пра мастака.

На адкрыццё прыехала мама мастачкі – архітэктар **Людміла Луцэвіч**. Яна працавала і працуе над рознымі праектамі па добраўпарадкаванні Вілейкі, яе ўзнагароджвалі за адкрыцці брамы-капліцы ў гонар загінулых воінаў Першай сусветнай.

Расказала мама пра Наталлю, што цяга да малявання з'явілася ў яе яшчэ ў маленстве:

– Яшчэ не ўмела гаварыць, а імкнулася трымаць у руках аловак і штосьці намаляваць.

Пабачыць карціны Наталлі Табушавай і разам з імі акунуцца ў лета вілейчане змогуць да сярэдзіны лютага.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ". Наталля Табушава** – мастак і магістр мастацтвазнаўства. Лаўрэат міжнародных конкурсаў і прэміі Мінскага гарвыканкама, аўтар і кіраўнік пленэра "Дух гісторыі". Правяла сем персанальных выстаў. Творы знаходзяцца ў фондах Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, у прыватных калекцыях.

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, АСТРАЎЦА І АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.**

**166**

Рэгіянальная газета. Rh.by Тэлетыдзень

ТРАНСПАРТ

Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!

Вечерний Бобруйск

## ВІНШАВАНКА

**З ЮБІЛЕЕМ!**
**Аркадзю Сямёнавічу Касцюку з в. Дамашы Маладзечанскага раёна**



Паважаны Аркадзь Сямёнавіч!

Прыміце нашы самыя шчырыя віншаванні! Жадаем Вам усіх зямных даброт, спаўнення жаданняў, удачы, поспехаў ва ўсім. Заставайцеся заўсёды такім слаўным, мілым чалавекам. Захоўвайце заўжды сваё абаянне, добрую энергетыку.

*Сегодня,*
*в день прекрасный юбилея,*
*Мы от души хотим Вам*
*пожелать,*
*Чтоб, о годах прошедших*
*не жалея,*
*Вы продолжали верить*
*и мечтать.*
*Здоровья Вам, добра*
*и оптимизма,*
*Удачи и счастливых,*
*ярких дней,*
*Пусть будет всё*
*благополучно в жизни*
*У вас, у ваших близких*
*и друзей!*
*Летят года, но не беда,*
*О том не стоит*
*волноваться,*
*Не зря Вахтанг поёт*
*слова:*
*"Мои года –*
*моё богатство".*

**Выпускнікі 1959 года Марыя і Ваня Русакі, Марыя Балыш, Ніна Шчасная, Лідзія і Міша Балышы і іх сем'і.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-2121 у выдатным стане. Т. (8-029) 6307110.*

• Рэно-19, 1995 г.в, 1,7 бензін. Т. (8-029) 8897733.

• Сітраен-Джампер, 2003 г.в, пасажыр 7+1, сярэдняя база. Т. (8-029) 6307110.*

• ФВ Т-2, легкавы,1,6 дызель. Т. (8-029) 3187448.

• Сітраэн-Саха, 1998 г.в 1,1Б, 3 дзв., зялёны, моцны кузаў, эканамічны рухавік. Рухавік і каробка без падцёкаў. Страхоўка і ТА да кастрычніка 2016 г. Цана 35 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 5511138.

• Хёндай НГ-1, 2000 г.в, 2,5 дызель, мінівэн, вялікі і прасторны. Нядорага. Т. (8-029) 7626136.

• Запчасткі б/у да а/м ФВ-Т2, 1987 г.в, 1,7Д, грузавы, ёсць ўсё. Т. (8-029) 1294363, (8-029) 5651407.

• **ЗАПЧАСТКІ Б/У ДА А/М:** Сітраэн-Ксара, Джампер, Пікаса, Эвазьён, С3, С5, С8; Опель-Астра, Вектра, Зафіра, Амега-В; Пежо-206, 306, 307, 406, 407, 607, 806, 807, Боксер, Эксперт; Фіят-Уліс, Скунда, Пунта, Дуката; Форд-Транзіт; Таёта-Пікнік, Авенсіс, Авенсіс-Верса; Фольксваген-Цыгуян, Транспарцёр, Т4, Каравела, Крафтар, Пасат-В5, LT28; Рэно-Меган, Сцэнік, Эспэйс, Лагуна-2, Максіці, Маскот, Кангу; Міцубісі-Паджэра-3; Мерседэс-207-410, Віта, Спрынтар; Лянча-Зета, Кіа-Карневал; СААБ 9-5; Нісан-Альмера-Ціна, Кабстар; Івека-Турба-Дэйлі 35.10-59.12 ТАА "МолАўта-Стоп" УНП 690617006. Т. (8-029) 7721520, (8-029) 6015258.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак і іншых частак кузава, а таксама глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*

• **АЎТАМАБІЛЬ У ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДАРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*

• **АЎТО** ў любым стане. Т. (8-033) 6062301.*

• Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

■ **Компьютерная диагностика и ремонт электрооборудования** любой сложности;
■ **Решение проблем:** клапан ЕГР, катализатор, сажевый фильтр;
■ **Проверка и регулировка СО, СН;**
■ **Заправка и ремонт кондиционеров;**
■ **Замена ГРМ;**
■ **Диагностика и ремонт подвески;**
■ **Запчасти** в наличии и под заказ.

Т. Велком **(8-044) 741-91-83**, МТС **(8-029) 779-93-27**.

**Шиномонтаж**
Т. **(8-044) 533-32-66, (8-029) 769-73-09.**

ОДО «Игл» УНП 690603198

**УСЛУГИ:**
■ **Экскаватора-погрузчика**
■ **Все виды земляных работ**
■ **Эвакуатор**
■ **Техпомощь**
**Круглосуточно**
Тел. **(8-029) 263 26 63**

ИП Ремша А.А. УНП 691289898

**СТО**
■ **Замена ГРМ, сцепления**
■ **Восстановление суппортов**
■ **Ремонт ходовой, тормозов**
■ **Развал-схождение**
■ **Ремонт глушителя**
■ **Шиномонтаж, аргон**

Тел. в Молодечно **58-10-30, (029) 876-51-17, (029) 335-48-04, (029) 64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.

ООО "Авто-Мотор- Плюс". УНП 690552830

### ПАСЛУГІ

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне (36/19/8,2), 1 паверх 5-панэльнага дома, з рамонтам. Т. (8-029) 6503925.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Драздовіча, 4 (3/5,28,7/17,3/5,6). Т. (8-029) 1083495.*

• 2-пакаёвая кватэра на 2-м паверсе ў Вілейцы, р-н Зеніт. Т. (8-033) 6373832.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Ф.Скарыны, д.6, 50,6 кв.м, 783 000 000 руб, цэнтр горада. Т. (8-029) 1441876.*

• 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Смаргоні, 3/5, агульная плошча - 51,2, жылая плошча - 30,3. Кладоўка, падвал, лічыльнікі. Цана дагаворная.Тел. (8-029) 6907385.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*

• Дом драўляны ў Вілейцы па вул. Зарэчнай, д.20, 63 кв. м. Усе камунікацыі, участак 6 сотак. Т. Вэлком (8-029) 6570465.

• Дом з выгодамі ў Вілейцы. Т. (8-029) 7324445.

• Дом недабудаваны ў Вілейцы ці абмен на кватэру. Т. (8-025) 9791739.

• Дом у Маладзечне па вул. Грыцаўца, газ, выгоды, гараж, сад, агарод, піяніна. Т. (8-029) 2608541.*

### КУПЛЮ

• Дом, дачу, участак. Т. (8-029) 1810280.

### ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру з рамонтам у Маладзечне. Т. (8-029) 5031181.

• 3-пакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул. Міру. Т. МТС (8-029) 5183125.*

• Дом (частку дома) у цэнтры Івянца Валожынскага раёна: цагляны, 2-павярховы, з усімі выгодамі, 50 км ад Мінска. Т. (8-029) 7775357, (8-044) 7900079.*

• У арэнду гандлёвыя месцы ў Вілейцы па вул. 1 Мая,10 (каля міні-рынку) . ІП Гарагашаў М.Ш. УНП 690298510. Т. МТС (8-029) 7665259.*

• У арэнду ізаліраванае памяшканне ў будынкуі магазіна г. Вілейка. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977. Т. (8-029) 5551515.*

• У арэнду ці прадам ізаліраванае памяшканне, 32 кв. м. ў цэнтры Маладзенчна. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977. Т. (8-029) 5551515.*

■ **Вагонка**
■ **Доска пола**
■ **Блокхаус**
■ **Имитация бруса**
■ **Пиломатериалы**

*Низкие цены.*
Тел. **(8-029) 654-15-63** Велком, **(8-029) 381-19-05** Велком.
ИП Мандрик А.Н. УНП 691401824

**ООО "АВИ-АРТ"**
**Изготовим по индивидуальному заказу:**
**шкафы-купе, прихожие, кухни, детские, гардеробные**
*Собственное производство*
*Выезд на район бесплатно*
(8-029) **615-68-80** Вел.
(8-029) **775-51-12** МТС
УНП 690686612

## ПАСЛУГІ



### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі. Юбілеі. Навагоднія карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць НД. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• Фота і відэаздымка вяселляў, аблічбоўка відэакасет. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148.*

**Постоянно продаем**
• **дрова** колотые,
• **горбыль** резанный,
• **чурки**, готовые прямо в печку.
*Доставка.*

**Продаем**
**отходы деревообработки**
100 куб. м.
Телефоны для справок:
МТС **(8-029) 7665160**
Велком **(8-029) 3281667**
ЧПТУП «Рабцевич» УНП 690620759

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Грузаперавозкі, 20 тон, борт. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• Грузаперавозкі, БУС,1,5 тон. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• Мерседэс 412, 2,5 т, паслугі грузчыка. Без выходных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блок-хаўс, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• **МАЙСТАР НА ГАДЗІНУ**. Выезд майстара ў любы час сутак. Рамонт кватэр любой складанасці ў Вілейцы. ІП Жэлабковіч В.В. УНП 691179691. Т. (8-033) 6647521.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• **МІЖПАВЯРХОВЫЯ ДРАЎЛЯНЫЯ ЛЕСВІЦЫ ВЫРАБІМ ПАД ЗАКАЗ. УЛАСНАЯ ВЫТВОРЧАСЦЬ. ВЫЕЗД НА РАЁН БЯСПЛАТНА**. ТАА "Аві-Арт" УНП 690686612. Т. (8-029) 6157520, (8-029) 7627933.*

• Печніка. Любое ацяпленне. ІП Ціхановіч А.С. УНП 191091444. Т. (8-029) 2599940, www.940.by.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага,36. Наяўны і безнаяўны разлік. www.mivcomputevov.dy ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт ноўтбукаў і камп'ютараў. Выезд па Маладзечне і р-не. ІП Сасноўская Н.Б. УНП 691881741. Т. (8-029) 3977734.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

**СДАЕМ**
**в аренду банкетный зал**
на 100 мест в Мяделе
**для проведения торжеств.**
Есть баня и номера (на 20 человек).
Тел. **(8-044) 772-97-20**
ИП Черменская К.Н. УНП 690687767

## СПАЧУВАННІ

**Паважаныя Тамара і Станіслаў Чарняўскія.**

Разам з вамі глыбока смуткуем з прычыны напаткаўшага вас вялікага гора – трагічнай смерці вашага сына Сашачкі. Мужнасці вам і самавытрымкі, каб перанесці гэта вялізнае гора. Трымайцеся.

**Сем'і Асташанка і Парфіменка.**

**Услуги эвакуатора и грузоперевозки**



24 часа в сутки ИП Тесленко Н.Ю. УНП 600564375
Велком ***(8029) 663-65-38***,
МТС ***(8029) 271-24-77***.

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723, (8-025) 9555719.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• Электрык да вашых паслуг. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

**ПРАДАЕЦЦА**

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

**АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ**
Рассрочка без % 8-029-570-22-12, 8-029-905-63-93
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ - ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320. *

• Антэны спадарожнікавыя. Рамонт, настройка, устаноўка. Акцыя "Трыкалор". Замена старога на новае. ІП Новік С.С. УНП 691398368.*

**Мэбля**

• Спальня "Мара" б/у ў Вілейцы. Т. (8-029) 6672438.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• В'етнамскія свінкі на племя. Т. (8-029) 9713136.*

• Дамашні кабан на мяса. Т. (8-029) 7626136.

• Свіння мясам па 60 тыс.руб за 1 кг. Т. (8-029) 8766740.

• Сям'я гусей халмагораў. Вілейка. Т. (8-025) 5401403.

**Іншае**

• Дзіцячае аўтакрэсла. Цана 1 100 000 руб. Т. (8-029) 8772440.

• Зерне, дровы. Т. Вэлком (8-029) 3405845.*

• Прагулачная каляска ў Маладзечне, 1 год б/у, выдатны стан, 1 000 000 руб. Т. (8-029) 5045977.

**КУПЛЮ**

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Батарэі чыгунныя б/у. Т. (8-029) 6319537.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• Ноутбук, сістэмны блок, у любым стане. Т. (8-029) 5613972.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

• Манеты да 1917 г. Выезд па ўсім рэгіёне. Т. (8-029) 6564123.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• **ІНГАЛЯТАР ВЫТВОРЧАСЦІ ВА "ЭЛЕКТРАМОДУЛЬ", НЕ ЎЖЫВАНЫ. Т. (8-033) 6671977.***

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Сена ў рулоне. Маладзечна. Т.(8-0176) 734104.

• Старадаўнія янтарныя бусы часоў СССР. Заслаўе. Т. (8-029) 3343895, (8-029) 8775982.*

**ІНШАЕ**

• Ёсць прапіска ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5606607.

Размясці сваю аб'яву не менш за **ТРЫ РАЗЫ**, і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце Rh.by

• Згубленае пасведчанне аб рэгістрацыі ІП Каханоўскага В.А. №691502073, выдадзенае 04.10.2012 г. Маладзечанскім РВК, лічыць несапраўдным.

## ПРАЦА

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.*

# Наталля Арсеннева праз успаміны Пятра Краўчанкі

## Яна ўстала ў 5 раніцы, каб сабраць у лесе грыбы і пачаставаць гасцей. У 91 год

**З былым міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятром Кузьмічом Краўчанкам я знаёмы яшчэ са студэнцкіх гадоў.**

Неяк, працуючы над адной са сваіх кніг, у яго асабістым архіве звярнуў увагу на блакітную папку з надпісам "Н. Арсеньева". Зацікавіўся, пачаў перагортваць старонкі дакументаў, спытаў у яго, а ці надрукавана гэта дзенебудзь. "Усё не, – быў адказ, – толькі маленькімі ўрыўкамі". Ён доўгі час сядзеў моўчкі, потым узяў у рукі фотаздымак паэтэсы і пачаў расказваць.

– На чале беларускай дэлегацыі ў 1990 – 1993 гадах я прыязджаў у Злучаныя Штаты Амерыкі на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Тут я пазнаёміўся з многімі прадстаўнікамі беларускай дыяспары – дзеячамі літаратуры, мастацтва, навукі. Сярод іх была і Наталля Аляксееўна Арсеннева. Трэба адзначыць, што ў савецкай Беларусі аб ёй мала хто ведаў, яе творчасць была закрытая для чытачоў, а прасцей кажучы, забароненая. Але час змяняўся, паступова імя Наталлі Арсенневай усё часцей пачало гучаць, асабліва сярод нацыянальнай інтэлігенцыі, распаўсюджваліся яе вершы. Я тады быў сакратаром Мінскага гаркама Кампартыі Беларусі і не мог не заўважыць гэта. Узнікла жаданне даведацца больш пра паэтку.

У гэтым дапамог Барыс Сачанка, – працягвае Пётр Кузьміч, – з якім я сябраваў ужо на працягу многіх гадоў. Ён цікавіўся літаратурай беларускай эміграцыі і добра ведаў яе. У бібліятэцы Сачанкі быў і зборнік вершаў Наталлі Арсенневай. Вось тады я і пазнаёміўся з яе творамі. З першых радкоў яны ўразілі сваёй лірыкай, меладычнасцю, асобай мовай, якая прыносіла нейкую спецыфіку, флёр і шарм у беларускую паэзію. Адразу ўзнікла пытанне: дык што ж за паэтка? І нейкае зусім не тыповае для беларускі прозвішча, можа, па мужу? Аказалася, што яна па нацыянальнасці руская, больш таго, яе бацька з роду тых самых Арсеневых, які па жаночай лініі даў Міхаіла Юр'евіча Лермантава. Маці Лермантава – Марыя Міхайлаўна Арсеннева, а ў дзяцінстве ён у Тарханах выхоўваўся ў сваёй бабулі, таксама таго ж прозвішча.

Сустрэча з Наталляй Арсенневай адбылася ў доме сямейства беларускіх эмігрантаў Бартулеў. Яны жылі ў Гленкаве, прыгарадзе Нью-Ёрка. Іх добра ведаў Генадзь Бураўкін, ён і пазнаёміў Краўчанку з Бартулямі, адукаванымі, культурнымі і інтэлігентнымі людзьмі, з якімі ў Пятра Кузьміча адразу склаліся цёплыя, сяброўскія адносіны.

У час адной з размоў з Францішкам Бартулем Пётр Краўчанка ўзгадаў імя Арсенневай. У адказ Бартуль сказаў:

– Мы сябруем з Наталляй Аляксееўнай, але жыве яна далёка адсюль, у Рочэстэры. Гэта штат Мічыган, амаль на мяжы з Канадай. Калі вам будзе трэба, мы купім ёй білет, яна прыляціць сюды і вы сустрэнецеся.

Пётр Кузьміч з вялікай радасцю пагадзіўся. Не адмовілася ад сустрэчы і Наталля Арсеннева. Бартулі запрасілі таксама пісьменніка Майсея Сяднёва, не ведаючы, праўда, што між Арсенневай і Сяднёвым былі немалыя рознагалоссі і супярэчнасці. Гэта часам выяўлялася ў ходзе гутаркі, выклікала напружанасць і нават некаторую нервовасць. Калі нешта казала Арсеннева, Сяднёў пярэчыў і наадварот. Але гэта было толькі ў іх узаемаадносінах. У цэлам жа сустрэча насіла цёплы, даверлівы і сяброўскі характар.

– Першае, што мяне вельмі ўразіла, – кажа Пётр Краўчанка, – жыццёвая сіла гэтай 88-гадовай жанчыны. Але я адразу ўбачыў у ёй не бабулю, як можна было меркаваць па ўзросце, а свецкую даму з бляскам у вачах, элегантна апранутую, з жаданнем спадабацца ўсім.

Наталля Аляксееўна была невысокага росту, у ёй адчувалася яе дваранскае паходжанне, пэўны арыстакратызм. Яна жартавала, смяялася, з апетытам ела і нават не адмаўлялася ад віна. Быў выхадны дзень, спяшацца няма куды, і наша гутарка працягвалася больш за шэсць гадзін. Гэта сустрэча дала мне магчымасць вельмі многае зразумець у яе жыццёвым лёсе, вытокі гэтай яе "беларускасці", яе патрыятызму.

Наталля Аляксееўна Арсеннева расказала, што яна нарадзілася ў 1903 годзе ў Баку. Праз некаторы час сям'я пераехала ў Вільню. У 1914 годзе, калі пачалася Першая сусветная вайна, эвакуіравалася ў Яраслаўль, у той горад, дзе жыў вялікі беларускі паэт Максім Багдановіч. Наталля Арсеннева, безумоўна, не магла з ім сустракацца. Ды і якія маглі быць сустрэчы, калі ёй у той час было адзіннаццаць гадоў, а Багдановічу дваццаць пяць!

У 1919 годзе бацькі Арсенневай вырашылі вярнуцца ў Вільню. Ехалі не праз Мінск, а нейкім акольным шляхам па тэрыторыі Дзвінскага краю. Прыпыніліся ў вёсцы пад Даўгаўпілсам. Іх гасцінна сустрэла беларуская сям`я, што ў значнай ступені паўплывала на далейшы лёс будучай паэткі. Заначавалі... Наталлю паклалі спаць на печ. Раніцай яна прачнулася ад дзіўна прыгожай песні, якую, распальваючы печ, ціхенька напявала гаспадыня дома.

І як расказвала Арсеннева Пятру Краўчанку, тут упершыню яна пачула па-сапраўднаму чыстую, вясковую беларускую гаворку, якая ўразіла сваёй цудоўнасцю і меладычнасцю.

Затаіўшы дыханне, слухала яна песню: дзе я? Што гэта за народ? Чаму іх песні так адрозніваюцца ад рускіх?

Пазней, пры сустрэчы з ёй, Пётр Краўчанка спытаў:

**– Спадарыня Арсеннева, растлумачце сваю таямніцу: як Вам, рускай па нацыянальнасці, удалося так глыбока пранікнуць у беларускую душу, беларускае слова?**

– Я ніколі не думала аб гэтым. Але я заўсёды любіла Беларусь, яе людзей, яе мову і песню. З асалодай, з захапленнем некалі слухала беларускую мову на вёсцы. Асабліва мову старых людзей. Ад іх я вучылася жывой мове.

Прыехаўшы у Вільню і размаўляючы з беларусамі, Наталля цвёрда вырашыла ісці вучыцца ў беларускую гімназію. Незадоўга да гэтага яна была адкрыта братамі Антонам і Іванам Луцкевічамі. Гімназія знаходзілася ў Базыльянскіх мурах – крапасных збудаваннях, на тэрыторыі былога манастыра. Тут жа Луцкевічы адкрылі свой знакаміты музей, дзе былі сабраныя ўнікальныя экспанаты, у тым ліку, часоў Вялікага Княства Літоўскага. У далейшым гімназія атрымала досыць шырокую вядомасць. Часам яе называюць "прэдуніверсітэтам" беларускай нацыі. Асаблівым гонарам беларускай гімназіі з'яўляюцца, акрамя Наталлі Арсенневай, народны паэт Беларусі Максім Танк і выдатны вучоны ў галіне астранаўтыкі Барыс Кіт.

Тут, у беларускай гімназіі, Наталля Арсеннева і пачала пісаць свае вершы. Ведаючы аб тым, што Антон Луцкевіч вельмі добра адклікаўся аб яе першым зборніку "Пад сінім небам" (1927 г.) і нават напісаў рэцэнзію на яго, Пётр Кузьміч вырашыў, што на паэтычную сцежку Арсенневу вывеў менавіта ён.

**На гэта Наталля Аляксееўна адказала:**

"Ён вельмі прыхільна адносіўся да мяне ячшэ тады, калі я вучылася ў гімназіі. У сёмым класе нашым настаўнікам літаратуры быў Максім Гарэцкі, які ўвёў мяне ў паэтычнае жыццё. А Антон Луцкевіч стаў нашым настаўнікам ужо ў восьмым, апошнім класе, таксама мне дапамагаў. Напрыклад, пазнаёміў мяне з тымі вершамі Максіма Багдановіча, якія яшчэ не былі надрукаваны. А яшчэ казаў, што я як бы часткова спадкаемца Максіма Багдановіча. Ён Максіма Багдановіча вельмі высока цаніў, вельмі высока ставіў" .

Так што, першым талент Наталлі Арсенневай заўважыў Максім Гарэцкі, убачыўшы ў ёй прадаўжальніка творчасці Багдановіча. У паэзіі па танальнасці, па жанры яны былі блізкія адзін аднаму. А потым Наталля Аляксееўна шчыра прызналася Краўчанку, што паэтычную іскру Гарэцкі "выбіў" у яе сілай свайго дзіўнага абаяння. Ён быў у Арсенневай першым каханнем. А калі чалавек закахаецца, хочацца тварыць, падабацца, хочацца, каб ён звярнуў увагу. І Наталля пачала пісаць вершы, якія ў душы прысвячала Максіму Гарэцкаму.

**– А чаму ў Вашых першых творах так многа смутку? З чым гэта звязана?**

– На гэта ўплывала наша жыццё у Вільні. Жылі мы ў вельмі цяжкіх умовах, што і адбілася, відаць, на маіх вершах. Сястра памерла ў дарозе, пакуль мы ехалі, бацька захварэў, маці таксама была хворая. Працы не было. Я ўжо некалькі разоў паўтарала: калі я вучылася ў беларускай гімназіі, дык так часта мы кладліся спаць не еўшы, і таксама не еўшы ішлі ў гімназію. Усё гэта мела падсвядомы ўплыў на творчасць.


Фота Янкі СУРВІЛЫ.

Наталля Арсеннева.

**Аляксандр МЕДЗЯЛЬЦОЎ,**
**член Саюза пісьменнікаў Беларусі.**
**Загаловак рэдакцыі "РГ".**
**Працяг будзе.**

# Якім быў палон у Першую сусветную і Вялікую Айчынную

## Пагляд салдата, які пабываў у палоне на абедзвюх войнах і на якога прыйшла пахаванка

*Заканчэнне. Пачатак у №3.*

**Чытаючы радкі рамана Эрыха Марыі Рэмарка "На Заходнім фронце без перамен" міжволі ўспомніў даўняе знаёмства і размову з выпадковым спадарожнікам ў вагоне цягніка Мінск-Віцебск у 1965 годзе.**

– Доўга будзеце жыць, Піліп Ягоравіч, – як можна больш бадзёра сказаў я. І каб адцягнуць майго спадарожніка ад сумных успамінаў, спытаў першае, што прыйшло ў галаву:

– Чаму ў палоне апынулася так шмат чырвонаармейцаў?

Падумаўшы, Піліп Ягоравіч сказаў:

– Мы то з немцам былі саюзнікамі, разам маршыравалі на парадах у Брэсце і Львове ў 39-м. Ніхто іншы, як Сталін, тэлеграфаваў Гітлеру пасля сумеснага разгрому Польшчы, "сяброўства змацаваных крывёю...", ён жа павіншаваў Гітлера з перамогай над Францыяй.

Вось гэта "сяброўства" і адыграла фатальную ролю. Спачатку забаранялі страляць па нямецкіх самалётах – думалі, памылка, маўляў, усё будзе добра, але Гітлер падмануў Сталіна. Нездарма кажуць: "Скажы, хто твой сябар, і я скажу, хто ты".

Апраўдваючы Сталіна, я запярэчыў:

– Піліп Ягоравіч, у Юды сябры былі бездакорныя.

– І тое, праўда, – пагадзіўся мой спадарожнік. Памаўчаўшы, працягнуў:

– Ну, і потым, ніхто не хацеў ваяваць за В.К.П.(б) – другое прыгоннае права бальшавікоў, – дадаў ён. – Не знакаміты загад Сталіна 227, хоць і ён, хутчэй наваг не загад, а зварот, маленне да народа і арміі, вытрыманы ў бацькоўскім тоне, без ніякага прыхарошвання, ніякіх папрокаў, ніякіх пагроз, ніякіх пустых абяцанняў, адна горкая праўда, безумоўна, падзейнічалі.

Але я думаю, што калі б немцы ставіліся да ваеннапалонных чырвонаармейцаў так, як яны ставіліся да рускіх палонных у мікалаеўскую вайну, то ўся Чырвоная Армія здалася б у палон, ваяваць проста не было б каму.

Нечалавечае стаўленне немцаў да палонных чырвонаармейцаў – адна з прычын таго, што наш чалавек нарэшце ўзяўся за зброю па-сапраўднаму. Прыносячы сябе ў ахвяру, раздушыў фашысцкую гадзіну Гітлера, але ратуючы сябе і Радзіму, выратаваў заадно і тыранію Сталіна.

Замест падзякі тых, хто быў вінаваты ў катастрофе 41-га года, пасля вайны абвінавачвалі, без разбору, усіх былых ваеннапалонных у здрадзе Радзіме. Ды што ваенных – абвінавачвалі жанчын і дзяўчат, якія апынуліся на акупаванай тэрыторыі, у дапамозе акупантам. 50 тысяч мінчан, ды што мінчан – усю Беларусь, Украіну, палову Расіі – бальшавікі кінулі на знявагу акупантам. Чыя ў тым была віна?



Фота photochronograph.ru

Савецкія ваеннапалонныя ў канцэнтрацыйным лагеры "Шталаг XVIIIA".

Памаўчаўшы, Піліп Ягоравіч сказаў:

– У гэтым і ёсць трагедыя нашага народа.

Непрыкметна цягнік прыбыў у Віцебск. Па надземнаму пераходу мы падняліся на другі паверх вакзала. Піліп Ягоравіч прыкметна накульгваў на правую нагу.

... Развітанне па-мужчынску было кароткае. Я ішоў па "Кіраўскім" мосце, унізе несла свае халодныя, цёмныя вады Дзвіна. Дзьмула халаднаватым, свежым ветрыкам. А сэрцу было трывожна і балюча: з цяплом душэўным і светлым сумам я толькі што развітаўся, магчыма, назаўжды, з блізкім і дарагім мне Чалавекам.

**Генадзь МАЛЫШАЎ, Мядзел.**

ГІСТОРЫЯ

# Мястэчка Маркава, якому 600 год

## Час войнаў з Масковіяй і пачатак Рэчы Паспалітай

*Працяг. Пачатак у №3.*

МАЛАДЗЕЧНА

**Маркава здаўна з'яўлялася своеасаблівым цэнтрам уплыву нашага краю, вакол якога сыходзіліся інтарэсы навакольных паселішчаў. Летась мястэчка справіла сваё 600-годдзе.**

Ад 1501 да 1506 года Маркаўскім намеснікам быў заснавальнік Нясвіжскага роду Радзівілаў, прыбліжаны караля, кашталян троцкі, маршалак літоўскі Ян Мікалаевіч Радзівіл па мянушцы Барадаты, сын Мікалая Радзівіла Старога, вялікага канцлера літоўскага, ваяводы Віленскага і Соф'і Манівід, Слонімскай князёўны.

Такім чынам, на рубяжы 15-16 стагоддзяў Маркаўскі двор належаў прадстаўнікам вядомага ў той час магнацкага роду Мінгірдавічаў.

### У час войнаў з Масковіяй Маркава цалкам спалілі

Пачатак княжання Аляксандра ад 1492 супаў з пачаткам несупыннага ваеннага ціску Маскоўскага княства.

У перыяд ад канца 15-га стагоддзя да канца 16-га адбылося шэсць (!) абарончых войнаў з Маскоўскім княствам з агульнай працягласцю 30 год, (1492–1494, 1500–1503, 1507–1508, 1512–1522, 1534–1537, 1558–1583 гады).

**На працягу 90 год усходні сусед пастаянна турбаваў нашу гаспадарку. Гэта, па сутнасці, няспыннае працістаянне з агрэсіўным усходнім суседам разбурала яе, трымала ў пастаяннай трывозе людзей ВКЛ.**

Чарговае з іх (1512–1522 гады) прынесла разруху і ў Маркава, якое ў 1519 годзе было цалкам спаленае. "Пастараліся" ноўгарадска-пскоўскія ратнікі на чале з князем М. Кісліцам.

### Узнагарода 16 стагоддзя

Ад 1506 года ўжо на больш працяглы час уладальнікам двара становіцца нехта Мардас Мышкавіч. У грамаце караля Жыгімонта баярам Даўмонта 25 лютага 1514 года на тры сяльцы з сялянамі і ўгоддзямі ва ўзнагароду за паражэнне татар сказана: "Жыгимонт. Били нам чалом баяры нашы Харытон ды Алехна Барталамеевичы Домонтавичы и пакладали перад нами жалобу сваю и лист великаго князя Витовта, данный Глебу Юрьевичу Домонту на зямлю Текуновскую, каторого Текуна татары срубали, а его отродку никого не засталося, и на тры сяльцы в Марковском стане на имя Кононовичы и Вежуны при реце Уше, да Шолоды в верстах дзевяти от реки Вельи, дымов осьм десят чотыри, з перевозом Шоловицким и з землею луговою и бортною со пчоламы, ему Глебу Домонту, жоне его и детем за тую его службу: как он з войском своим з людьми служебными погонею идучи за неприятелем войско татарское за Слуцком у лесах Сковышинских побил и много людей Литовских у неволю полоном забраных отгромил. А до старосты Марковского даем лист наш таковый. Мордасу Мышковичу, старосте Марковскому. Не горазд чинить без указу и ведома нашого перешкоду боярам нашым. Нехай больш их уже кривды им не будет, штож они, Домонты, со славою продков своих конно и збройно нам служат, тую землю и тры сяльцы з перевозом на реце Вельи водлуг листу великого князя Витовта и сего листу нашого, мають держати без перешкоды. А ты, староста Марковский, никоторого не маеш дела до тое отчизны их. Писан у Вильни. Февраля 25 дня, индыкта второго".

Падобна, што Кононовичы – гэта цяперашняя вёска Конавічы, а Вежуны – вёска Вяжуці каля ракі Уша Маладзечанскага раёна. Шолоды могуць быць Шылавічамі, што цяпер знаходзяцца ў Вілейскім раёне. У трох "сяльцах" мелася 84 двары. Немалыя, як на той час, былі гэтыя "сяльцы", што належалі старосту, якія ўжо рэальна існавалі больш за пяць стагоддзяў назад.


Oszmianskim ... № 15

Inwentarz Części Starostwa Markowskiego w Gubernij Litewskiey pozostaley częścią w Powiecie Oszmian. a częścią w Zawileyskim sytuowaney, w Posessyi JW. Tadeusza Kościełła Star. Oszmian. zostaiącey za Ukazem Gubernskiego Litt. Rządu przez Kommissyą Lustracyjną Dóbr Skarbowych Stw. Oszmian. w R. teraźn. 1798 In fundo teyże części Stw. Sporządzony

**Фрагмент старонкі інвентароў апісання часткі Маркаўскага староства ў губерні Літоўскай пасля падзелаў Рэчы Паспалітай.** Фота аўтара.

У 1518 годзе Маркаўскі двор прыдбаў ва ўладанне ваявода Навагрудскі Ян Янавіч Забярэзінскі, сын Яна Забярэзінскага, ваяводы трокскага, маршалка земскага за 700 коп літоўскіх грошаў.[1] Да гэтай сумы ён потым дадаў яшчэ 300 коп. Але ўжо праз два гады, у 1520 годзе, кароль Жыгімонт адмысловым распараджэннем перадае двор, хутчэй тое, што ад яго засталося пасля пажару, зноў Яну Мікалаевічу Радзівілу, які нечакана памёр у 1522 годзе. Абарвалася Радзівілава лінія ўладальнікаў Маркава, і паселішча нейкі час лічыцца каралеўскім уладаннем.

У далейшым мястэчка зноў належала Яну Забярэзінскаму.

З 1528 года Маркаўскімі ўладальнікамі лічацца кухмістр Ян Нарбут і яго намеснік Мікалай Якубавіч Коцел.

Ёсць пісьмовае сведчанне 28 чэрвеня 1530 года аб прыцягненні путных людзей Маркаўскай воласці да адбывання прыгону. Путныя сяляне цалкам залежалі ад буйнога землеўладальніка, маглі мець дзве валокі зямлі.[2] На выпадак вайны ці па іншай прычыне гэтыя людзі па першым пазове князя павінны былі прыбыць са зброяй у войска, адправіцца ў дарогу, у пуць. Адсюль і назва – путныя.

"Жыгимонт. Приходили к нам люди наши путныя Марковское волости, жалуючы о том, штож дей врядники твои Марковские кривды им делают. Мы в уставе нашой, с которою писар наш всим дворам нашим ездил, выписали, иж мають они на пашни нашой дворной дванадцать ден в кождый год робити. А к тому мают давати в каждый год до скарбу нашого, на св. Мартина день, осадных по копе грошей.

Писан у Кракове под лет 1530, месяца июня 28 день, индыкта 3".

У 1534 годзе маскоўскія ваяводы Міхаіл Гарбаты і Мікіта Абаленскі з агнём і мячом дайшлі да Маладзечна і Маркава. Зноў места было спалена.

У сярэдзіне 16-га стагоддзя Маркаўскі двор разам з Мядзельскім дваром уносіць падаткі ў казну вялікага князя. Уладальнікам абодвух двароў з'яўляецца Леў Янавіч Роскі. Затым яго змяняе Мікалай Паўлавіч Нарушэвіч, з 1558 года – каралеўскі сакратар, а з 1562 года – яшчэ і пісар ВКЛ.

### У складзе Рэчы Паспалітай

З 1569 года, пасля Люблінскай уніі ВКЛ з польскім каралеўствам, Маркава знаходзіцца ў складзе Рэчы Паспалітай. З гэтага часу на нашых землях пашырыўся польскі варыянт назвы – вёска (Wies), які ў далейшым перайшоў у расейскую мясцовасць.

У 1578 годзе ўладальнікам Маркаўскага двара становіцца Юры Влошка. У тыя часы Маркава было не толькі вялікакняжым каралеўскім дваром, але і цэнтрам павета, буйнейшым адміністрацыйна-гаспадарчым пасяленнем. Аб гэтым сведчыць і рашэнне караля аб пераліку Віленскіх двароў, іх памераў, чыншавага падатку ў выглядзе гусей і курэй.

Тут трэба адзначыць, што ў 1582 годзе ў ВКЛ і, вядома, у Маркаве перайшлі на летазлічэнне па Грыгарыянскім календары. Прапанаваны ў 1582 годзе доктарам з Неапаля Алаізіусам Ліліусам, згодна з рэкамендацыямі Трыдэнтцкага сабора (1545-1563 гг.), і ўведзены папам Грыгорыем булай "Inter Gravissimas" 24 лютага 1582 года новы каляндар ліквідаваў памылкі старога Юліянскага календара. За 4 кастрычніка наступны дзень сталі лічыць, як 15 кастрычніка 1582 года. З гэтага часу ўсе даты на дакументах сталі пазначацца па Грыгарыянскім календары (па новым стылі).

Адзначыўся ў Маркаўскай гісторыі канцлер і вялікі гетман ВКЛ, віленскі ваявода Леў Іванавіч Сапега (1557-1633). У пачатку восені 1586 года Сапега ажаніўся з удавой Даротай Збарожскай, народжанай Фірлеевай, якая нядаўна пахавала свайго мужа, трокскага ваяводу Штэфана Збарожскага. Дарота прынесла Сапегу немалы пасаг. Да таго ж 10 сакавіка 1588 года, у год выдання трэцяга Статута ВКЛ, кароль Жыгімонт III Ваза выдаў прывілей удаве трокскага ваяводы Штэфана Збарожскага Дароце на вечнае ўладанне Маркаўскім і Мядзельскім дварамі.

**Сяргей КАСМАЧ,**
**Маладзечна.**
**Працяг будзе.**

1) 1 капа – 60 грошаў – 2 злоты. Першыя грошы ў выглядзе манет з'явіліся ў ВКЛ з Чэхіі ў 15 стагоддзі.
2) 1 валока (wloka) = 30 маргоў (morgi) = 21,36 га, 1 морг =30 прутоў (pruty) =0,712 га.

КАЛЯНДАР

### 22 СТУДЗЕНЯ

**110 гадоў** з дня нараджэння Андрэя Александровіча (1906–1963), беларускага паэта, дзіцячага пісьменніка, крытыка, вязня савецкіх канцлагераў, члена-карэспандэнта АН Беларусі (1936). Браў актыўны ўдзел у Рэформе беларускага правапісу 1933 года, хоць да таго ніколі не займаўся лінгвістыкай. Адзіны беларускі літаратар, які трапіў у Палітычную камісію для перагляду расійска-беларускага слоўніка і новых правілаў правапісу беларускай мовы. Па рэформе атрымаў пасаду дырэктара Інстытута мовы Беларускай акадэміі навук. Пасля падзей 1917 года выказваў ідэю пра непатрэбнасць беларускай мовы. Пасля атрымання шматлікіх пасадаў, у 1930-я гады публічна і ў друку выступаў з крытыкай творчасці В.Дуніна-Марцінкевіча, Ф.Багушэвіча, М.Багдановіча, нашаніўцаў. Рэдагаваў першы парэформавы "Руска-беларускі слоўнік" (Мінск, 1937), у прадмове да якога крытыкаваў папярэднія слоўнікавыя выданні. У ім на карысць прысутных у расійскай мове адпаведнікаў быў адкінуты вялікі пласт беларускай лексікі. Так, напрыклад, калі дарэформавы "Расейска-беларускі слоўнік" С.Некрашэвіча і М.Байкова (1928) для перакладу слова "государство" прапаноўваў сінонімы "дзяржава", "гаспадарства", "панства", то ў слоўніку Александровіча заставалася толькі "дзяржава", эквівалентам расійскага "город" у першым слоўніку былі "места", "горад", а ў другім – толькі "горад".

### 23 СТУДЗЕНЯ

**1981 год.** Памерла Вера Маслоўская, грамадска-палітычны дзеяч, настаўніца.

### 24 СТУДЗЕНЯ

**85 гадоў** з дня нараджэння (1931) Міхася Мушынскага (Міхаіла Іосіфавіча), літаратуразнаўца, крытыка, тэкстолага, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

**1911 год.** Памёр Аляксандр Аскерка, грамадскі дзеяч, удзельнік паўстання 1863-1864 гг. Нарадзіўся ў 1830 годзе.

### 27 СТУДЗЕНЯ

**100 гадоў** з дня нараджэння Уладзіміра Няфёда (1916–1999), тэатразнаўца, педагога, пісьменніка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Асобнае месца сярод яго навуковых прац і аддзела тэатра займае трохтомная "Гісторыя беларускага тэатра", Падобнага фундаментальнага выдання не мае ніводная з краін былога СССР, апроч Расіі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ТЭМА НУМАРА

# Аўтобусу ЛАЗ радаваліся таму, што ён увогуле прыходзіў

МАЛАДЗЕЧНА

**Апошні аўтобус ЛАЗ знік з маладзечанскіх дарог яшчэ ў 2007 годзе. Але настальгія па пыльных салонах, дзвярах-гармоніках і вельмі добрых вачах-фарах гэтага аўтобуса ў некаторых усё ж засталася.**

Калі з'явіўся першы аўтобус ЛАЗ у маладзечанскім аўтапарку і куды быў яго першы рэйс, цяпер не прыгадае ніхто. Хаця вадзіцель аўтапарка **Аляксандр Собаль**, які прыйшоў працаваць сюды ў 1974 годзе, сцвярджае, што хутка пасля яго ўладкавання на працу ён перасеў са старэнькага ЛіАЗа на аўтобус ЛАЗ.

– Апошнія гады сваёй "службы" ў аўтапарку, – расказвае намеснік дырэктара па пасажырскіх перавозках **Віктар Руткоўскі**, – ЛАЗы ездзілі пераважна па прыгарадных маршрутах.

А пачыналася геаграфія паездак на ЛАЗах з Ленінграда, Карпатаў, Львова.

– Звычайны ЛАЗ-695 пераабсталёўваўся ў турыстычны аўтобус, – кажа Віктар Руткоўскі. – З іншых аўтобусаў здымалі мяккія сядзенні і ездзілі на вялікія адлегласці.

**У 2007 годзе ў аўтапарку заставаліся 23 такія аўтобусы, іх спісалі. Самаму старому аўтобусу было тады 16 гадоў.**

**Валожын – гэта другая Адэса, калі ехаць туды на ЛАЗе**

Аляксандр Собаль, калі прыгадвае сваю гісторыю адносін з дзівам львоўскай аўтамабільнай прамысловасці, адзначаў, што ў ЛАЗах была адна перавага перад іншымі аўтобусамі – яны вельмі простыя з тэхнічнага боку.

– Хаця ламаліся часта, у асноўным з-за благіх дарог выходзілі са строю рэсоры. А летам што, вады на радыятар нальеш – і ўвесь рамонт. А яшчэ з-за перагрузкі.

**У ЛАЗе 35 пасадачных месцаў, усяго – 70. На прыгарадныя маршруты ў аўтобус набівалася па 100 і больш чалавек.**

– Самы цяжкі маршрут для мяне, – кажа Аляксандр Собаль, – дарога на Валожын. Гэта цяпер да яго можна даехаць за 40 хвілін, на ЛАЗе добра, калі дабіраліся за дзве гадзіны. Валожын я называў Адэсай, таму што было адчуванне, што ў Валожыне сходзяцца ўсе дарогі. Але людзі раней дабрэйшыя былі. Радаваліся, калі ўвогуле аўтобус прыходзіў. Гэта цяпер ім то дзьме, то месца не тое.

Але самым лепшым аўтобусам, на якім давялося парацаваць Аляксандру Собалю, ён лічыць "Ікарус". Менавіта на "Ікарусе" ён праехаў паўтара мільёна кіламетраў.

– Калі спідометр майго ЛАЗа паказаў адзнаку 400 тысяч кіламетраў, яго спісалі. Да гэтага, калі гэты ж аўтобус аддаваў на капрамонт, ён праехаў 500 тысяч кіламетраў. Таму агулам можа і быў прабег мільён.

З асаблівай цеплынёй кіроўца ўспамінае тое, як упрыгожвалі салон аўтобуса.

**– Гэта цяпер забаранілі ўпрыгожваць кабіну, а раней і букецік паставіш, і сцяжкоў, вымпелаў навешаеш. Махры прышывалі, хто маладзейшы, то і каляндар з голай дзеўкай мог павесіць, – смяецца Аляксандр.**




Фота Наталлі ТУР.

Аляксандр Собаль працуе кіроўцам аўтобуса больш за 40 гадоў. Пачынаў сваю кар'еру на аўтобусе ЛіАЗ, затым былі ЛАЗ, "Ікарус","Івека" і, нарэшце, МАЗ. І за гады працы ў Аляксандра не здарылася ні адной аварыі.

Раней і зоркі не грэбавалі ЛАЗамі.

– А што, і Саладуху вазіў. Хаця не, яго я вазіў усё ж на "Ікарусе". Футбольную каманду маладзечанскую па ўсёй краіне давялося паваозіць.

У пачатку 90-х Аляксандр быў адным з першых кіроўцаў, што вазілі чаўнакоў на рынак у Польшчу.

– О, памятаю, што тыдзень на мяжы сталі. Такія чэргі тады былі.

**– Што рабілі тыдзень у аўтобусе?**

– Пасажыры гарэлку пілі, а мы сядзелі, чакалі. На працы ж. Затое цяпер на рынку ну ўсе прадавачкі знаёмыя.




Фота Наталлі ТУР.

Апошні маладзечанскі аўтобус ЛАЗ, які працягвае працаваць. Гэты аўтобус падвозіць работнікаў электрасетак да месца працы.

**У Маладзечне застаўся апошні ЛАЗ, які яшчэ на ходу**

І гэты аўтобус знаходзіцца ў аўтапарку Маладзечанскіх электрычных сетак.

Кіруе аўтобусам **Сяргей Дрозд**. Кіроўца прызнаецца, што раней на аўтобусе ездзілі часцей і на вялікія адлегласці, напрыклад, у Малдову. Цяпер аўтобус выязджае не так часта. І пераважна падвозіць работнікаў прадпрыемства на працу.

Аўтобус з МЭСа павышанай камфортнасці. У ім мяккія крэслы. Спідометр паказвае адзнаку 400 тысяч кіламетраў, і сыходзіць на адпачынак аўтобус не збіраецца.

А вось на Маліноўшчынскім заводзе ў ЛАЗе ўжо працуе мінілабараторыя. Аўтобус стаіць на стаянцы, у ім няма фараў, няма прыборнай панэлі.

Начальнік транспартнага цэха прадпрыемства **Вацлаў Саўчыц** жартуе:

– Ну вось, прыехалі фатаграфаваць аўтобус. А мне дырэктар усё: "Спісвай, спісвай". Куды спісваць? Можа, гэта адзіны аўтобус, з якога калісьці пачнецца музей тэхнікі, якую ўжо на вуліцах горада не сустрэнеш.

## Пасляслоўе

Днём заснавання Львоўскага аўтамабільнага завода лічыцца 21 мая 1945 года. Але першы аўтобус выйшаў з канвеера завода ў 1956 годзе. Прадпрыемства за гады працы выпусціла больш за 40 розных мадэляў аўтобусаў.

ЛАЗы неаднаразова траплялі на экраны тэлевізараў, станавіліся сапраўднымі кіназоркамі. Аўтобусы Львоўскага завода можна ўбачыць у такіх фільмах, як "Ашалелы аўтобус", "Каралева бензакалонкі", "Вусаты нянь", "Аперацыя Ы і іншыя прыгоды Шурыка", "Легенда №17" і ў многіх іншых фільмах.

Канчаткова легендарны завод спыніў сваё існаванне 23 сакавіка 2015 года.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-
566-26-99
(працоўны)

# “Мала працы, моладзь з’язджае”

## У двух падобных гарадах у Польшчы і Беларусі аднолькавыя і праблемы

ВІЛЕЙКА

**Параўнаем два гарады: польскі Яроцін і беларускую Вілейку. Па колькасці насельніцтва яны амаль не адрозніваюцца. Падобныя і тым, што знаходзяцца непадалёку ад вялікіх гарадоў – адпаведна Познані і Мінска. І праблемы, як аказалася, падобныя.**

### Падабенствы і разыходжанні

Таксама як і ў Вілейцы, у Яроціне шмат прыватных дамоў. Цікава, што на шматпавярховых будынках робяць вялізныя графічныя малюнкі – муралы. Ёсць рэалістычныя карціны, ёсць і абстрактныя.

У Яроціне нашмат больш, чым у Вілейцы, захавалася старых пабудоў. У іх месцяцца гарадскія ўлады, пошта, гімназія... А музычная школа ўвогуле ў колішнім палацы знаходзіцца з адпаведнай абстаноўкай ўсярэдзіне. Некаторыя з гэтых будынкаў рэстаўравалі з дапамогай грошай з Еўрасаюза.

На вуліцах Яроціна шмат рэкламы. І толькі абгародзяць які будынак плотам для рамонту, як ужо на тым плоце рэкламу павесяць.

У цэнтры горада шмат крамак. І кавярняў хапае. Паабедаць “стравай дня” – першае і другое – будзе каштаваць каля 75 тысяч на нашы грошы. Як і ў Вілейцы, на вуліцах сустракаеш разнастайныя стаянкі для ровараў.

У Вілейцы летась адгрымелі абласныя “Дажынкі”. І ў Яроціне свята ўраджаю ў канцы лета праводзяць.

### “Горад маркетаў”

Калі яшчэ існаваў СССР і сацыялістычны блок, то па прамысловасці Яроцін быў падобны на Вілейку. Тут былі дзве вялікія мэблевыя фабрыкі, станкабудаўнічы завод. Але яны даўно зачыненыя. Цяпер у горадзе ёсць прыватныя прадпрыемствы, але ўжо не такія вялікія. “Мы сталі горадам маркетаў”, – пачуў ад гараджан. Сапраўды: тут і польская, і нямецкая, і французская сеткі супермаркетаў прадстаўленыя. І яшчэ будуюцца. Кажуць гараджане, што ў каго час ёсць, то на зніжках можа добра зэканоміць. Але наракаюць, што заробкі ў маркетах невялікія.

### Фестываль року як брэнд горада

Яроцін ведаюць па рок-фестывалі. Ён быў асяродкам вольнасці яшчэ ў часы Польскай народнай рэспублікі. Праводзяць яго і цяпер.

У горадзе ёсць двухпавярховы музей польскага року – вельмі інтэрактыўны. На першым паверсе кавярня, дзе ладзяць канцэрты.

Можа, і Вілейка калі будзе атаясамлівацца з фестывалем. Летась тут правялі рыцарскі фэст, а сёлета збіраюцца правесці фестываль моладзевых субкультур.

“У нас кожны горад марыў мець свой аквапарк”, – кажуць гараджане. – Мара спраўнілася. У Яроціне пры гасцініцы ёсць аквапарк з басейнам і саўнай. Па памерах аквапарк прыкладна як маладзечанскі, толькі горкі высокія. У аквапарку нямала пенсіянераў – зніжкі ім тут значныя, абанемент на месяц нядорага каштуе.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

У Яроціне ўстанавілі скульптуру берцаў – сімвала рок-фестывалю.

### Жыхары арганізавалі рэферэндум

У той час, калі быў у Яроціне, тут рыхтаваўся рэферэндум за адстаўку бурмістра і гарадскога савета. Купка жыхароў вырашыла не чакаць новых выбараў і сабрала неабходную колькасць подпісаў.

Сярод іншага закідвалі бурмістру, што ў горадзе вялікае беспрацоўе, не знайсці добрай працы, мала інвестараў. І многія жыхары ездзяць на працу ў Познань. “Маем маркеты, а працы няма. Хацелася б, каб жыхары ў Яроцін прыязджалі не толькі начаваць”, – казаў адзін з ініцыятараў рэферэндуму.

Хаця прадстаўнік гарадскіх уладаў казаў, што на якую цяжкую працу моладзь не хоча вучыцца, і на новае мясаперапрацоўчае прадпрыемства набіралі ўкраінцаў.

Рэферэндум у Яроціне праводзіўся не ў першы раз: раней галасавалі, ці трэба адкрыць на рынкавую плошчу доступ на аўтамабілях.

### Як жывецца пенсіянерам

Пенсіянерка Уршуля кажа пра горад так: “Добры, зялёны, гасцінны”. Параўнаем бюджэт пенсіянераў у двух гарадах.

У пані Уршулі пенсія значна большая за сярэднюю: вялікі стаж, добрая пасада. То для чысціні эксперыменту яна прыняла сярэднюю пенсію ў сваіх сяброўак – каля 2000 злотых, 10 мільёнаў на беларускія рублі. Хаця, ёсць і тыя, хто ў пяць разоў менш атрымлівае, а хто збіраецца ў Мексіку ляцець на адпачынак.

Жыве пані Уршуля ў невялікай двухпакаёўцы, плошчай каля 40 квадратных метраў. Плата за камуналку не залежыць ад сезона, і разбітая на роўную суму ў месяц (калі за ацяпленне акажацца менш, потым пералічаць).Так што, плаціць на нашы грошы ў месяц ёй даводзіцца адзін мільён 750 тысяч за камунальныя паслугі, 650 тысяч за газ і электраэнергію. Так што, ад сярэдняй пенсіі застаецца сем мільёнаў 600 тысяч.

У пенсіянеркі Ірыны з Вілейкі і яе знаёмых пенсія складае каля двух мільёнаў 400 тысяч рублёў. Жыве яна ў трохі меншай двухпакаёўцы, чым Уршуля. За камунальныя паслугі зімой разам з газам і электрычнасцю плаціць каля 400 тысяч. Застаюцца два мільёны. А цэны на прадукты можаце пагладзець у табліцы ніжэй.

Праўда, каб зарабіць пенсію, палякам трэба папрацаваць больш. Да 2012 года пенсійны ўзрост для мужчын быў 65 год, для жанчын – 60.

Потым сталі паступова падымаць усім да 67 год. Але зараз хочуць вярнуцца да ранейшых лічбаў.

### Моладзь з’язджае ў буйныя гарады

Жыхары Яроціна ў ліку асноўных праблем горада разам з недахопам працы і нізкімі заробкамі называлі такую: моладзь з’язджае адсюль.

Ураджэнцы Яроціна пасля навучання застаюцца ў бліжэйшай Познані і далейшай Варшаве, хто і ў Англію з Ірландыяй едуць працаваць.

Супрацоўнік мясцовага выдання Караль прыкінуў, што большая частка яго аднакласнікаў не засталася ў родным горадзе. Чаму? Праблематычна знайсці добрую працу. А яшчэ сумнавата тут, мала ёсць чым заняцца моладзі: толькі начны клуб, кінатэатр. Хаця для заняткаў спортам месцы ёсць: спортпляцоўкі ў школах, спортклубы. А для моладзі лічаць добрым заробкам ў 10 з паловай мільёнаў на нашы грошы “на рукі”.

Перанясёмся ў Беларусь. Віляйчанка Дар’я лічыць, што цяпер самая вялікая праблема для моладзі – гэта праца: “То яе наогул нідзе няма, заработная плата настолькі малая, што нічога акрамя розных плацяжоў і танных прадуктаў сабе не дазволіш. Шмат моладзі шукае годны даход у іншых гарадах і нават краінах”. Павел палічыў, што з яго 22 аднакласнікаў у Вілейцы засталіся чатыры-пяць. Пераважна з’язджаюць у Мінск.

– Чаму з’язджаюць? Кажуць: “Няма працы і перспектыў”, – дзеліцца. – Але я аптыміст і лічу, што ў Вілейцы перспектыў больш, чым у якім іншым малым горадзе Беларусі. Ёсць рыцарскі і роварны клубы, моцная краязнаўчая суполка, пляцоўка для стрытворкаўту, можна пагуляць у футбол, скейт-парк хутка будзе. А працу можна знайсці на адлегласці.

### Параўнанне цэнаў у Яроціне і Вілейцы

(браліся мінімальныя цэны ў адной з буйных крамаў гарадоў у пераводзе ў рублі)

| Прадукт, вага | Яроцін | Вілейка |
|---|---|---|
| Смятана, 18%, 400 гр | 9 450 | 12 700 |
| Малако | 10 000 | 9 600 |
| Сыр Гаўда, 400 гр | 25 000 | 40 000 |
| Хлеб, 0.5 кг | 11 500 | 5 400 |
| Масла, 200 гр | 15 000 | 13 900 |
| Філе курыцы, кг | 37 500 | 55 500 |
| Фарш свіны, кг | 55 000 | 63 500 |
| Філе пангасіуса | 50 000 | 59 900 |
| Мандарыны, кг | 20 000 | 27 900 |
| Апельсінавы нектар, 2 л. | 18 500 | 24 900 |
| Кава “Чыба фэмілі”, 500 гр | 60 000 | 99 800 |

**Даведка “РГ”.**
Узровень беспрацоўя ў Яроціне перавышае дзевяць працэнтаў. У Вілейцы па афіцыйных звестках – 1,4 %. Згодна з абласным статыстычным упраўленнем, у Вілейцы налічаная сярэдняя зарплата за лістапад склала 5 мільёнаў 383 тысячы рублёў. У Яроціне называлі сярэднюю зарплату, таксама да выплаты падаткаў, у 11 з паловай мільёнаў. Сайт polskawliczbach.pl прыводзіць вышэйшы заробак у Яроціне – каля 14 мільёнаў.



Алесь ВЫСОЦКІ
alvy@tut.by

НАВІНЫ

## Смаргонцы перамаглі, астраўчане прапусцілі 17 галоў ад лідара

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па міні-футболе "Вілія" са Смаргоні 17 студзеня прымала аўтсайдара,"Навагрудак". І у сваёй перавазе усумніцца не дала. Перамога 16:8.

– Пасля першага тайма вялі 9:2, – расказвае гулец "Віліі" **Віталь Будай**. – А вось у другім тайме расслабіліся. За што і паплаціліся, прапусціўшы шмат галоў.

"Меліяратар" з Астраўца ездзіў у госці да лідара групы, "Легенды" з Іўя. Першы тайм гаспадары выйгралі 8:2. А канчатковы вынік 17:7 на карысць "Легенды".

"Ашмяны" гэты тур прапускалі.

У групе "Поўнач" "Вілія" ідзе на другім месцы з адставаннем у шэсць ачкоў ад лідара. "Ашмяны" – на трэцім, "Меліяратар" – на чацвертым.

"Вілія" і "Ашмяны" правялі на матч менш, чым астатнія каманды.

## Маладзечанцы выйшлі ў фінал кубка Мінскай вобласці па міні-футболе

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

На гэтых выхадных адбыліся папярэдні гульні Кубка Мінскай вобласці па міні-футболе. Каманды з рэгіёна гулялі ў Лагойску. Адзіную пуцёўку ў фінал аспрэчвалі каманды Маладзечанскага, Вілейскага, Мядзельскага і Лагойскага раёнаў.

Вынікі матчаў паміж камандамі рэгіёна такія. Маладзечанцы перамаглі віляйчан 3:1 і мядзельчан 11:5. Вілейка згуляла з Мядзелам унічыю 4:4.

У выніку маладзечанцы перамаглі ў турніры і выйшлі ў фінал. Вілейская каманда – на другім месцы. Мядзяльчане набралі роўную колькасць ачкоў з віляйчанамі, чатыры: абедзве каманды яшчэ перамаглі каманду з Лагойска. Але мядзяльчане па розніцы мячоў апынуліся на трэцім месцы.

Фінальныя гульні намечаныя на 6-7 лютага. Маладзечанцы змагаюцца з камандамі з Барысава, Жодзіна, Салігорскага і Маладзечанскага раёнаў.

## Лепшыя спартсмены – у Крывасельскім сельсавеце

ВІЛЕЙКА

15 студзеня ў Вілейцы адбылася спартакіяда, у якой удзельнічалі шэсць камандаў сельскіх саветаў і каманды аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама. Спаборніцтвы праходзілі ў цэнтры фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн".

Каманды спаборнічалі ў шасці відах. Сярод іх былі чатыры камандныя: перацягванне каната, дартс, плаванне і камбінаваная эстафета, і два асабовыя: узніманне гіры і конкурс капітанаў. Перамагла ў спартакіядзе каманда Крывасельскага сельсавета. На другім месцы – прадстаўнікі аддзела адукацыі, спорту і турызму. Трэцяе месца на рахунку каманды Вязынскага сельсавета.

– Лічу, усе каманды засталіся задаволеныя і прызамі, і тым, як прайшлі спаборніцтвы. Атрымалася ўсё дружна і зладжана, – кажа галоўны суддзя спаборніцтваў **Наталля Стаўская.** – Да таго ж, сёлета ў спартакіядзе ўдзельнічалі больш камандаў сельсаветаў.

## Спаборніцтвы да Дня снегу

ВІЛЕЙКА

На цэнтральнай плошчы горада 16 студзеня прайшло мерапрыемства, прымеркаванае да Дня снегу. Удзельнічалі вучні сярэдніх школ №1, №3 і №5 Вілейкі. Яны спаборнічалі ў камбінаванай эстафеце, перацягванні каната і іншых відах. Лепшыя атрымалі прызы.

## Ашмяны прымуць тыдзень экіпіровачнага паўэрліфтынгу

АШМЯНЫ

У межах яго ад 27 да 31 студзеня ў Ашмянах пройдзе шэраг турніраў па экіпіровачным паўэрліфтынгу.

Па інфармацыі спартыўна-атлетычнага клуба "Аякс" адбудзецца адкрыты чэмпіянат рэспублікі ў трохбор'і і жыме лежачы сярод мужчын і жанчын. Таксама пройдуць адкрытае першынство рэспублікі ў трохбор'і і жыме лежачы сярод юнакоў і дзяўчат, а таксама паміж юніёраў і юніёрак ды ветэранаў.

**Аддзел інфармацыі.**

**Даведка "РГ".** Паўэрліфтынг – від спорту, сутнасць якога ў пераадоленні супраціву максімальна цяжкай вагі. У экіпіровачным паўэрліфтынгу спартсмены выкарыстоўваюць бінты на калені і на запясці, майку для жыму лежачы, шырокі пояс, камбінезоны для прысядання і станавай цягі і іншае.



Фота з архіва "РГ".

З выбарам каманды Уладзіславу Фядотаву (злева) дапамог вызначыцца яго трэнер і старэйшы таварыш па камандзе Сяргей Дараховіч (справа).

ФУТБОЛ

# Маладзечанец падпісаў кантракт з камандай вышэйшай лігі

МАЛАДЗЕЧНА

**18-гадовы Уладзіслаў Фядотаў падпісаў кантракт з камандай "Іслач" на тры гады.**

Выхаванец Маладзечанскай ДЮСШ №4 (першы трэнер – **Аляксандр Гармаза**) у сезоне 2015 года выступаў за каманду "Маладзечна ДЮСШ-4" у другой лізе чэмпіянату Беларусі, а таксама прадстаўляў родны горад на чэмпіянаце вобласці. У 2015 годзе гулец правёў 25 матчаў у другой лізе і забіў два мячы.

Цікавасць да Уладзіслава праяўлялі і іншыя клубы вышэйшай лігі, але малады футбаліст зрабіў выбар на карысць "Іслачы". Не апошнюю ролю ў гэтым сыграў зямляк Уладзіслава і памочнік галоўнага трэнера **Уладзімір Макоўскі.**

Уладзіслаў расказаў "Рэгіянальнай газеце", што акрамя "Іслачы" яму паступіла прапанова ад каманды са Слуцка.

– Быў таксама варыянт у дубль БАТЭ, я ездзіў туды двойчы на прагляд. Але мае бацькі, вядома, больш хацелі, каб я гуляў паблізу ад дома. Ды і мне так больш зручна, бо я пакуль яшчэ вучуся ў політэхнічным каледжы ў родным горадзе.

Футбольны клуб "Іслач" Уладзіслаў палічыў для сябе лепшым варыянтам. Не ў апошнюю чаргу з-за таго, што трэніруе каманду Уладзімір Макоўскі. Уладзіслаў лічыць, што разлічваць на дапамогу земляка можна.

Канчаткова з выбарам Уладзіславу дапамог вызначыцца трэнер каманды "Маладзечна ДЮСШ-4" **Сяргей Дараховіч.**

– Я хачу сказаць яму за гэта і за тое, што ён рабіў для мяне, вялікі дзякуй. Я пастаянна адчуваў яго падтрымку. Адзінае, пра што шкадую, што даводзіцца развітвацца з камандай. Мы праз многае з ёй прайшлі, і без гэтай каманды, без усіх маіх партнёраў па камандзе і трэнерскага штаба я не дасягнуў бы гэтага, таму я хачу падзякаваць усім і сказаць ім вялікі дзякуй, а таксама пажадаць усім поспехаў у будучым сезоне!

Першы трэнер Уладзіслава Аляксандр Гармаза прызнаўся, што ён незадаволены выбарам Улада.

> **– Вы кажаце ганарыцца сваім выхаванцам. Я ім буду ганарыцца тады, калі ён пачне гуляць, а не проста падпіша кантракт.**

За футбольны клуб "Іслач" Уладзіслаў будзе выступаць на пазіцыі цэнтральнага паўабаронцы і прыступіць да трэніровак разам з камандай, якая выходзіць з адпачынку крыху раней запланаванага – 25 студзеня.

### Ці будзе "Іслач" гуляць у Маладзечне, пакуль невядома

Каманда "Іслач" дагавор з маладзечанскім стадыёнам пакуль не падпісала. Пра гэта расказаў дырэктар стадыёна **Аляксей Язневіч**:

– Прыязджала кіраўніцтва клуба, мы іх зарыентавалі па нашых цэнах. Відавочна, што нашы ўмовы супрацоўніцтва ім спадабаліся. Але пакуль у нас на руках няма дагавора, я не магу сказаць, што "Іслач" будзе гуляць у Маладзечне.

### "Я смяюся, калі чую, што Маладзечна будзе гуляць у першай лізе"

Чаго чакаць маладзечанскім заўзятарам ў сезоне 2016, мы спыталіся ў галоўнага трэнера "Маладзечна ДЮСШ-4" Аляксандра Гармазы:

– Я смяюся, калі чую, што мяне пытаюцца, ці будзе каманда праходзіць ліцэнзаванне ў першую лігу. Каб там гуляць, трэба мінімальна 2,5 мільярда рублёў. Адкуль у нас такія грошы? Таму цяпер больш лагічным будзе задаць пытанне, ці будзе Маладзечна прадстаўлена ў другой лізе. Сезон 2015 мы адыгралі на ўласнай цікавасці і азарце. Я не хачу працаваць там, дзе футбол нікому не патрэбны. Я стаміўся ад гэтага.

**Наталля ТУР.**

КІНО

# "Міньёны" летась сталі самым папулярным фільмам у вілейскім пракаце

ВІЛЕЙКА

**Маленькія свавольнікі сабралі ля экрана нашмат больш гледачоў, чым фантастычныя героі, стрытрэйсеры і динаЗаўры.**

Дзясятка самых папулярных фільмаў, што паказвалі ў кінатэатры "Мір" летась, выглядае так:

1. "Міньёны" – 832 гледачы
2. "Зорныя войны: Абуджэнне сілы" – 488
3. "Фарсаж-7" – 431
4. "Сёмы сын" – 430
5. "Свет Юрскага перыяду" – 426
6. "Тры багатыры. Ход канём" – 371
7. "50 адценняў шэрага" – 368
8. "Мы, браты…" (Беларусь) – 351
9. "Мсціўцы. Эра Альтрона" – 255
10. "Узыходжанне Юпітар" – 186.

### Фільмам патрэбныя рэклама і знаёмыя героі

– Наведвальнасць фільма ў многім залежыць ад рэкламы, – кажа выканальніца абавязкаў начальніка аддзела па кінавідэаабслугоўванні насельніцтва Вілейскага раёна **Алена Батурына**. – Людзі ўбачаць рэкламу фільма ў інтэрнэце, па тэлебачанні і афішах у горадзе і прыходзяць у кінатэатр. Ужо загадзя пачынаюць цікавіцца, калі ў нас яго будуць паказваць. Адыгрывае ролю і тое, калі ў фільме ці анімацыі ўжо знаёмыя героі, што палюбіліся.

На стужкі "50 адценняў шэрага" і "Зорныя войны: Абуджэнне сілы" ўстройвалі папярэдні продаж білетаў – такая была цікавасць.

– На мой погляд, цікавасць віляйчан да наведвання кінатэатра ўзрастае, – дадае **Алена Батурына**. – Калі кінатэатр аснашчаны сучасным абсталяваннем, як у Вілейцы, тады і людзі хочуць яго наведаць і культурна адпачыць.

Заўсёды папулярнасцю карыстаюцца фільмы і анімацыя для сямейнага прагляду: тыя ж "Міньёны" ці "Тры багатыры. Ход канём", "Захавальнікі Месяца", "Губка Боб", "Монстры на канікулах 2", "Галаваломка".

Дзіцячыя сеансы асабліва запатрабаваны. Дзеці і падлеткі ахвотна наведваюць "Мір", падкрэслівае Алена Батурына. Некаторыя, ідучы са школы, завітваюць, бяруць рэкламныя ўлёткі паглядзець – што з новага будзе ісці ў кінатэатры.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота youtube.com.

Кадр з мультфільма "Міньёны".

# Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Шчаўкунчык**" (калядная казка), *Э.Т.А.Гофман* (рус.)
17 студзеня – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: ***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**



СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | 2 | 6 | |
| | 9 | | | 7 | | | | 1 |
| | 3 | | 2 | 1 | | 9 | | |
| | 7 | | | | 9 | | | |
| | | 9 | | 8 | | 3 | | |
| | | | 6 | | | | 2 | |
| | | 4 | | 3 | 5 | | 8 | |
| 2 | | | | 9 | | | 4 | |
| | 1 | 7 | | | | 5 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



РЭПЕРТУАРЫ

# Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Дзіцячы, прыгоды "**Маё піянерскае**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
23 студзеня – у 12:50
Цана білета: 25 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, сямейны "**Іван Царэвіч і Шэры Воўк 3**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
23 студзеня – у 15:00
24 студзеня – у 12:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя "**Галасы вялікай краіны**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
24 студзеня – у 14:20
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя "**Самы лепшы дзень**" (Расія, 2015, пасля 16 год)
22 студзеня – у 17:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка, баявік "**Мафія: Гульня на выжыванне**" (3D, Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
23 студзеня – у 16:50
24 студзеня – у 16:30
26 студзеня – у 21:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Прыгоды, трылер, драма "**Выжыўшы**" (ЗША, 2015, пасля 18 год)
22 студзеня – у 22:00
23 студзеня – у 19:00
24 студзеня – у 21:00
25, 27 студзеня – у 18:00
Цана білета: 50 000 – 55 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды, трылер "**5-я хваля**" (ЗША, 2015, пасля 16 год)
22, 28 студзеня – у 19:40
23 студзеня – у 22:00
24, 26 студзеня – у 18:40
25, 27 студзеня – у 21:00
Цана білета: 45 000 – 50 000



Прэм'ера! Мультфільм, прыгоды, камедыя "**Кунг Фу Панда 3**" (3D, ЗША, Кітай, 2015)
28 студзеня – у 17:40
Цана білета: 55 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя, меладрама "**Статус: Свабодны**" (Расія, 2015)
28 студзеня – у 22:00
Цана білета: 50 000 рублёў

Тэлефон: (80176) **77-15-92, 77-06-30**.

**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

# Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя, меладрама "**Статус: вольны**" (2D, Расія, пасля 16 год)
22 студзеня – у 14:50
24 студзеня – у 16:20
Цана білета: 45 000 рублёў

Трылер, драма, прыгоды "**Выжыўшы**" (2D, ЗША, з 18 год)
22, 24 студзеня – у 20:00
23 студзеня – у 16:10
Цана білета: 50 000 рублёў

Анімацыя "**Іван Царэвіч і Шэры Воўк 3**" (2D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
23 студзеня – у 12:50
24 студзеня – у 14:50
Цана білета: 45 000 рублёў

Дзіцячы, прыгоды "**Маё піянерскае 2**" (2D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
23 студзеня – у 14:20
24 студзеня – у 13:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Камедыя "**Самы лепшы дзень**" (2D, Расія, пасля 16 год)
23 студзеня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, трылер "**На грабяні хвалі**" (3D, Германія, Кітай, пасля 16 год)
23 студзеня – у 21:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Фантастыка, баявік "**Мафія: гульня на выжыванне**" (3D, Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
24 студзеня – у 18:10
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма "**Дасталі**" (Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
22, 24 студзеня – у 18:10
23 студзеня – у 16:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Трылер "**Небяспечнае спакушэнне**" (Мексіка, з 18 год)
22 студзеня – у 19:50
23 студзеня – у 18:10
24 студзеня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Прыгоды Машы і Гошы**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
23 студзеня – у 14:00
24 студзеня – у 14:50
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Кінадзяцінства. Мульціпатам**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
23 студзеня – у 15:00
24 студзеня – у 13:50
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыя "**Суперфарсаж**" (ЗША, з 16 год)
23 студзеня – у 20:00
24 студзеня – у 16:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэлефон для даведак: (801771) **5-68-59**.

# Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**Гастролі Вялікалукскага драматычнага тэатра (Расійская Федэрацыя) на сцэне Палаца культуры Маладзечна**

"**Вобразы**" (пластычны спектакль пра каханне)
22 студзеня – у 19:00

"**Шукаю сапраўднага мужчыну**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Алена Папова*
28 студзеня – у 19:00

"**Банкет**" (сентыментальная камедыя), *Ніл Сайман*
29 студзеня – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.



ГАРАСКОП
22-28 СТУДЗЕНЯ

**Авен.** Для шматкаго гэтыя дні будуць складвацца з добрых навін. І нават у дробязях вы станеце адчуваць апякунства Фартуны. Поспех, можна сказаць, будзе акружаць вас з усіх бакоў. Але асабліва "дастанецца" асабістаму жыццю.

**Цялец.** Перыяд не толькі удачны, але і вельмі адказны. Плады вашых намаганняў абавязкова пачнуць прыносіць дывідэнды ў недалёкай будучыні. І чым больш сіл вы патраціце на іх вырошчванне, тым большую аддачу зможаце атрымаць.

**Блізняты.** Прысвяціце больш часу дзецям. Каб умацаваць свой бюджэт, прымайце актыўны ўдзел у камерцыйных праектах. Ёсць верагоднасць узнікнення новай крыніцы даходу.

**Рак.** У вас ёсць асаблівасць – шукаць у навакольных лепшае, нават калі яны крывадушнікі. Не час гуляць у маці Тэрэзу. Вашы мэты павінны быць у прыярытэце.

**Леў.** Не шкадуйце грошай на здароўе. Зоркі абяцаюць поспех і працвітанне.

**Дзева.** Вы будзеце актыўныя і энергічныя. Але накіроўвайце энергію ў правільнае рэчышча, тады яе хопіць надоўга.

**Шалі.** Самы час запісацца на курсы замежных моў. Зоркі кажуць, што вы можаце ўбачыць свет пановаму і адрадзіць некаторыя старыя ідэі, злёгку падкарэктаваўшы.

**Скарпіён.** Вы будзеце адчуваць сябе даволі свабодна. Мала знойдзецца людзей, чыя дзеянні неяк паўплываюць на вас.

**Стралец.** Цяпер можна пачаць рабіць рамонт ці купіць новую кватэру. Толькі ўсе траты трэба добра планаваць. Глядзіце на жыццё максімальна прагматычна.

**Казярог.** Гэтымі днямі нічога не плануйце, жывіце па свабодным графіку. Гэта дасць вам магчымасць вызваліцца ад думкі накошт нейкай справы і прыняць правільнае рашэнне.

**Вадалей.** Калі вас паспрабуюць уцягнуць у канфлікт, не прымайце нічыйны бок, бо ў кожнага свая праўда. Пасля таго, як вы зрабілі падарункі блізкім, самы час патраціць грошы на сябе, прычым такую суму, якую вам хочацца.

**Рыбы.** Энергія, смеласць, ініцыятыва, а таксама прывабнасць, мяккасць, мудрасць – гэта ўсё вы. Таму, каб не ўпусціце шанец дасягнуць жаданага, старайцеся трымаць руку на пульсе жыцця.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
# Рэгіянальная газета.
тэлетыдзень

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -10 | | -9 | | -8 | | -10 | |
| | -9 | | -6 | | -11 | | -2 | |
| | 740 | ↗ 2 | 753 | → 4 | 753 | ↖ 2 | 745 | → 5 |
| Вільня | -12 | | -10 | | -11 | | -8 | |
| | -8 | | -4 | | -6 | | -1 | |
| | 7762 | ↘ 2 | 760 | → 3 | 760 | ↑ 3 | 751 | → 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 9.14
Захад 17.34
Даўжыня дня 8.20

Усход 17.21
Захад 8.19
Поўня




Мінімальная тэмпература -23 °C у 2006 годзе
Максімальная тэмпература +5,1 °C у 1993 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,3 мм у 1995 годзе
Назіранні за 38 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

**За якімі падарункамі прыходзяць у аптэку? Як дапамагчы чалавеку выбраць "што-небудь ад галавы"? І якія лекі купляюць 1 студзеня? Фармацэўт Віктар Дубік расказвае пра сваю прафесію.**

● КОНКУРСЫ

## У Маладзечне вызначылі лепшага выратавальніка

**МАЛАДЗЕЧНА**

Ім стаў **Дзмітры Дудко**, галоўны спецыяліст інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага гарайаддзела па надзвычайных сітуацыях.

Дзмітры Дудко працуе ў МНС ужо 15 гадоў. За гэты час у яго на працы здараліся розныя гісторыя. Даводзілася і ратаваць жыццё майстру, у руках якога ўзарваўся кандыцыянер. Даводзілася і тушыць пажар ад кіпяцільніка, які схавала ў шуфлядзе працоўнага стала работніца аднаго прадпрыемства, калі пачула, што да яе ідзе пажарны інспектар.

**Аддзел інфармацыі.**
**Падрабязней чытайце на сайце rh.by**

● ПРОСТА АНЕКДОТ

– Мілая, сёлета я выкінуў ёлку, нават не чакаючы, калі ты пачнеш ныць. Ну што, уразіў, а?
– Дурань, у нас жа штучная была!

***

Калі вам трэба выгаварыцца, падзяліцеся з мужам. Ён нікому не раскажа, таму што не слухае.


Фота забяспечанае Маладзечанскай цэнтральнай бібліятэкай.

Падчас Дня почырка.

● ВОЛЬНЫ ЧАС

## У бібліятэцы вызначалі характар па почырку

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У панядзелак, 18 студзеня, у бібліятэцы "Верасок" зладзілі Дзень почырку.**

Мерапрыемства арганізавалі работнікі залы літаратуры на замежных мовах для вучняў 5 "А" класа школы №8.

Свята почырку, ці ручнога пісьма адзначаецца 23 студзеня. Яно створанае для напаміну пра важнасць паказваць індывідуальнасць праз жывое пісьмо, без пасярэдніцтва электронных прыстасаванняў.

Бібліятэкары распавядалі пра навуковы метад графалогіі, які прапаноўвае па почырку распазнаць якасці асобы. Работнікі **Таццяна Летунова** і **Ларыса Берташ** распавялі пра піктаграмы, іерогліфы і стварэнне алфавіта.

Для вучняў правялі тэст, па якім вызначалі рысы характару ўдзельнікаў. Выбралі ўладальніка самага прыгожага почырку – ім аднагалосна прызналі **Андрэя Белікава**, які таксама перамог у віктарыне.

Андрэю ўручылі набор паштовак у філігранным стылі "Веткаўская букавіца" з пэндзлем і адмысловай фарбай. **Ганна Ганчар** і **Аляксей Балясаў** атрымалі заахвочвальныя прызы.

**Аддзел інфармацыі.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ



**Алена Царэнкава-Шпет, касір:**
– Я выйшла з адпачынку, калі дзіцяці было два гады. Гэтага часу хапіла, каб навучыць дзіця самастойна есці, апранацца. Хаця таксама кожнае дзіця рознае, трэба глядзець на яго асаблівасці.



**Таццяна Мацко, настаўніца:**
– Аптымальны час маці ў такім адпачынку – два з палавай-тры гады. Гэты час патрэбны, каб дзіця атрымала базавыя веды пра свет, навучылася гуляць у цацкі, мела цікавасць у гэтым.



**Вольга Канановіч, маладая мама:**
– Не трэба скарачаць адпачынак па доглядзе за дзецьмі. За тры гады дзіця навучыцца зразумела гаварыць, самастойна есці, гуляць з цацкамі. У два гады і раней галоўнае для дзіцяці, каб мама была побач.



**Яўгенія Родак, маладая мама:**
– Лічу, што адпачынак па доглядзе за дзецьмі павінны доўжыцца два гады, бо большасць бацькоў аддаюць дзяцей раней у садок, а самі выходзяць на працу.



**Георгі Юрэвіч, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце:**
– Навошта гэта рабіць. Лепш, каб дзіця падрасло, мела большы імунітэт. Кантактуючы з дзецьмі ў садку, яно часта падхоплівае інфекцыі, хварэе, а гэта не ідзе на карысць ні дзіцяці, ні маці, якая будзе часта хадзіць на бальнічныя.



**Ірына Бурдзь, прадавец:**
– Тры гады – гэта аптымальны тэрмін для адпачынку па доглядзе за дзецьмі. У мамы ёсць магчымасць паступова прывучаць дзіця да дзіцячага садка, кантактаваць з іншымі дзецьмі.



**Мікалай Юзубоўскі, пенсіянер:**
– Лепш, каб дзіця найдаўжэй было з мамай. Так яно не будзе хваравітым, больш самастойным, зразумела навучыцца гаварыць.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**



Рэгіянальная газета.
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№4 (1082) 22.01.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 63. Падпісана ў друк у 9.00 21.01.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.